БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

*Квартальнік*
*Беларускага згуртавання татараў-мусульман*

**"АЛЬ-КІТАБ"**

**№ 2**

Менск 1995

БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК
БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН
«АЛЬ-КІТАБ»

## № 2

Менск 1995

Рэдактарская група:

І.Александровіч,
Я.Гучок,
І.Канапацкі,
Н.Салаўёва,
Т.Панчанка.

Вялікую дапамогу Беларускаму згуртаванню татарау-мусульман "Аль-Кітаб" аказалі:

Т.Жабіт,
Е.Фешчанка,
В.Мінько.

Выказваем ім за гэта падзяку ( рахмат )

Надрукавана у Навагрудку.

بِسْمِ اللّٰهِ الرَّحْمٰنِ الرَّحِيمِ
اَلسَّلَامُ عَلَيْكُمْ وَرَحْمَةُ اللّٰهِ تَعَالَى وَبَرَكَاتُهُ

Ассаляму алейкум, спадарыні і спадары,
супляменнікі-татары, усе браты мусульмане
і сёстры мусульманкі!

У красавіку, траўні і чэрвені ў жыцці беларускіх татараў-мусульман адбыліся важныя падзеі.

Веснавыя работы на палях і агародах былі напружанымі, без упэўненасці, што надвор'е паспрыяе, што ўзарэш зямлю, што цяплiцу пад агародніну змайструеш. Вось дзяды нашыя неяк абыходзіліся без гэтых цяпліц, гербіцыдаў, інсектыцыдаў і ўраджаі збіралі неблагія.

Адно з найвялікшых мусульманскіх святаў Курбан-Байрам (па-арабску Ід аль-Адха) святкавалі большасць татараў, а ў некалькіх джаміятах адбыліся калектыўныя набажэнствы, былі зарэзаны ахвярныя жывёлы, прыгатаваны святочны абед. У час жалобнага свята Ашура ў Відзах, Смілавічах, Лоўчыцах (каля Навагрудка), Амбросавічах (каля Глыбокага) татары маліліся за душы памерлых. Зборы татараў (іх найчасцей называюць з'ездамі - бо з'язджаюцца людзі здалёк) - гэта магчымасць пагаварыць пра свае мусульманскія справы, даведацца пра добрыя, а нярэдка і пра сумныя весткі ў сем'ях мусульман. У гэтым нумары "Байрама" шмат інфармацыі пра гэтыя нашы з"езды.

Істотнай падзеяй была Другая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы, Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі", у якой прынялі ўдзел 70 навукоўцаў з краін Еўропы, Азіі, Афрыкі і Амерыкі.

З вялікім задавальненнем адзначаем, што з дапамогай Аллага выйшлі ў свет у трох кніжках матэрыялы Першай міжнароднай навуковай канферэнцыі "Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы". На канферэнцыі адбылася цікавая гаворка пра тое, што трэба рабіць для ўмацавання сувязяў паміж нашымі супляменнікамі, якія воляй лёсу апынуліся ў трох краінах.

~~Нельга не згадаць пра рэферэндум~~ і выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі. Мы ўжо раней пісалі, што стопрацэнтны ўдзел ці

стопрацэнтны неўдзел татараў у гэтых галасаваннях мог паўплываць толькі самым мінімальным чынам, бо татараў-выбаршчыкаў не больш чым 0,1%. Спадзяемся, што якія б яшчэ дзяржаўныя мовы не абвясцілі б у Беларусі, а думаць нашы татары будуць на беларускай мове, размаўляць паміж сабою і з беларусамі будуць па-беларуску, як размаўлялі нашы продкі ўжо 600 гадоў.

Вайна ў Ічкерыі - Чэчні, вайна ў Босніі і Герцагавіне, падзеі ў Крыме... Яны засмучаюць нас. Мы душою разам з тымі, хто пакрыўджаны. Мы просім Аллага, каб скончылася вайна і людзі маглі спакойна працаваць, жыць, гадаваць сваіх дзяцей.

---

Да ведама чытачоў. Рэдактарская група абмеркавала пытанне: ці добра будзе тое, што вялікі аб"ём матэрыялу у гэтым нумары друкуецца на рускай мове, ці не падумаюць чытачы, што на квартальнік татараў-мусульман паўплывалі вынікі рэферэндуму пра мову. Толькі ці разумна мы паступілі б, калі насуперак волі асобных аўтараў пераклалі іх артыкулы на беларускую мову. Нашы калегі згадалі пра выказванне аднаго вялікага чалавека Беларусі, які сапраўды разумна можа гаварыць толькі на мове вялікага усходняга суседа. Дык няхай ва усю моц працуюць даследчыкі, калі гэта будзе на карысць беларускім татарам.

І яшчэ адна праблема: якім правапісам карыстацца пры выданні "Байрама". Вядома, тым правапісам, якім карыстаецца школа. І дзеці і унукі нашы няхай карыстаюцца гэтым правапісам. А калі чалавек надрукаваў кнігі, артыкулы у часопісах і газетах, дзе карыстаецца правіламі, прынятымі у беларусаў да 30-х гадоў ? Дык што, перапраўляць аўтарскае напісанне у "Байраме"? Вядома, аўтар будзе разгневаны і ніколі нічога нам не напіша. А што рабіць з тымі матэрыяламі, якія вельмі карысна ведаць нашым чытачам, але аўтара ужо няма у жывых ? Ён ужо не будзе гневацца на нас, але перайначванне яго тэкста будзе вялікай знявагай яго памяці і мусульманін на гэта не павінен ісці. І яшчэ адно: некаторыя ведаюць пра тое, як пагневаліся добрыя сябры за тое, што адзін напісаў і надрукаваў прозвішча шаноўнага даследчыка без мяккага знака.

Ці варта нам губляць сяброўства з людзьмі толькі за тое, што некаму правапіс здаецца найважнейшым за усё.

---

Пішыце на адрас: Беларусь, 220086, Менск,
вул. Славінскага, д.21, кв. 8.
Якубоускаму Якубу

# К У Р ' А Н

## Сура пятая — Аль-Маіда
## (Трапеза — Застаўлены стол)

заканчэнне

85. Ты, напэўна , зразумееш, што найбольшую варожасць да паверыўшых(мусульман) выказваюць іудзеі і мнагабожнікі, і ты, напэўна, зразумееш, што самыя блізкія да паверыўшых тыя, якія казалі: "Мы назарэі (хрысціяне)!". Гэта таму, што сярод іх ёсць святары і манахі і што яны не ганарлівыя.

86. І калі яны слухаюць тое, што паслана Прароку, ты бачыш, як вочы іх перапаўняюцца слязьмі ад ісціны, якую яны спасціглі. Яны кажуць: "Божа наш! Мы паверылі, запішы нас паміж сведкамі!

87. І чаму б нам не верыць у Бога і ў тое, што нам з ісціны прыйшло, калі мы жадаем, каб Гасподзь нас залічыў да людзей праведных?"

88. І ўзнагародзіў іх Аллаг за тое, што яны казалі, садамі, дзе ўнізе цякуць рэкі, - вечна знаходзіцца яны там будуць. І гэта аддзяка тым, хто твары дабро. А тыя, якія не верылі і лічылі маной Нашы знакі, яны - жыхары пекла!

89. О вы, хто верыць! Забарону не рабіце на ўсё тое добрае, што нам дазволіў Аллаг. Празмернасці не дазваляйце сабе, бо Аллаг не любіць тых, хто перасягае (дазволеныя рубяжы).

90. І харчуйцеся тым, чым надзяліў вас Аллаг, дазволеным, добрым. І бойцеся Аллага, у якога вы верыце!

91. Аллаг не будзе вас караць за вашу легкадумную бажбу, але будзе вас караць за клятвы, зробленыя разважна. Можаце ад кары адкупіцца накарміўшы дзесяць беднякоў тым, чым жывіце вашу сям'ю - або апрануўшы іх, або вызваліўшы нявольніка (раба). А хто не мае такой магчымасці, таму - абавязкова тры дні пасціцца. Так вам Аллаг тлумачыць Свае знакі - можа вы будзеце ўдзячнымі.

92. О вы, хто верує! Усё, што ап'яняе(і атраўляе - хаір -

не толькі алкагольныя напіткі, але і наркотыкі) розум, азартныя гульні, камяні і балваны, якім пакланяюцца язычнікі, варажба (гаданне) на стрэлах - гэта мярзота шайтана. Будзьце ў баку ад гэтага - можа будзеце шчаслівымі!

93. Шайтан можа пасеяць між вамі варажнечу і нянавісць, алкагольнымі напоямі і наркотыкамі адхіліць вас ад памінання Аллага і ад малітвы. Ніўжо вы не зможаце ўстрымацца? Павінуйцеся Аллагу і пасланніку, асцерагайцеся! А калі адвернецеся, то ведайце, што да Нашага пасланніка належыць толькі яснае абвяшчэнне.

94. І няма граху на тых, хто верыць і чыніць дабро, у той ежы, якую елі яны (раней), калі ад граху яны высцерагаюцца, і вераюць і чыняць дабро. Аллаг любіць тых, хто чыніць дабро!

95. О вы, вернікі! Вядома, Аллаг будзе выпрабоўваць вас здабычай, якую атрымаюць на паляванні вашыя рукі і вашыя дзіды, каб стала вядомым Аллагу, хто баіцца Яго сапраўды. І хто пасля гэтага зробіць правіннасць, таго чакае пакутлівая кара.

96. О вы, каторыя паверылі! Не забівайце дзічыну (не палюйце), пакуль на вас вопратка пілігрыма (іграм). А хто з вас свядома заб'е - павінен аддаць у замену свойскую жывёлу такой жа вагі і гэта будзе засведчана двума праўдзівымі сведкамі, якія ідуць да Каабы, або як адшкадаванне - накорміць беднякоў ці роўнае гэтаму - пасціцца, каб чалавек адчуў шкоднасць свайго праступку. Аллаг прабачыць, што было раней. Хто ж паўторыць (гэты грэх), таму адплату Аллаг прызначыць. Аллаг, сапраўды, магутны, уладар адплаты!

97. Дазволена вам рыбная лоўля ў моры і тым, хто трымае шлях (у святыя для мусульман месцы). Але вам забаронена паляванне на зямлі, пакуль на вас вопратка пілігрыма. Бойцеся гневу вашага Уладыкі, да Якога вас усіх (аднойчы) паклічуць.

98. Аллаг устанавіў Забаронены (для граху) Дом - Каабу - прыстанішча людзей (адной веры), а таксама і забароненыя (для вядзення вайны) месяцы (Зіль Хаджжа, Шаввал, Зіль Каадда) і ахвярных жывёл, і ўпрыгожанні (каб адрозніць

يَٰٓأَيُّهَا ٱلَّذِينَ ءَامَنُوا۟ لَيَبْلُوَنَّكُمُ ٱللَّهُ بِشَىْءٍ مِّنَ ٱلصَّيْدِ
تَنَالُهُۥٓ أَيْدِيكُمْ وَرِمَاحُكُمْ لِيَعْلَمَ ٱللَّهُ مَن يَخَافُهُۥ
بِٱلْغَيْبِ ۚ فَمَنِ ٱعْتَدَىٰ بَعْدَ ذَٰلِكَ فَلَهُۥ عَذَابٌ أَلِيمٌ ٩٥
يَٰٓأَيُّهَا ٱلَّذِينَ ءَامَنُوا۟ لَا تَقْتُلُوا۟ ٱلصَّيْدَ وَأَنتُمْ حُرُمٌ ۚ
وَمَن قَتَلَهُۥ مِنكُم مُّتَعَمِّدًا فَجَزَآءٌ مِّثْلُ مَا قَتَلَ مِنَ
ٱلنَّعَمِ يَحْكُمُ بِهِۦ ذَوَا عَدْلٍ مِّنكُمْ هَدْيًۢا بَٰلِغَ ٱلْكَعْبَةِ
أَوْ كَفَّٰرَةٌ طَعَامُ مَسَٰكِينَ أَوْ عَدْلُ ذَٰلِكَ صِيَامًا
لِّيَذُوقَ وَبَالَ أَمْرِهِۦ ۗ عَفَا ٱللَّهُ عَمَّا سَلَفَ ۚ وَمَنْ عَادَ
فَيَنتَقِمُ ٱللَّهُ مِنْهُ ۗ وَٱللَّهُ عَزِيزٌ ذُو ٱنتِقَامٍ ٩٦
أُحِلَّ لَكُمْ صَيْدُ ٱلْبَحْرِ وَطَعَامُهُۥ مَتَٰعًا لَّكُمْ وَ
لِلسَّيَّارَةِ ۖ وَحُرِّمَ عَلَيْكُمْ صَيْدُ ٱلْبَرِّ مَا دُمْتُمْ حُرُمًا ۗ
وَٱتَّقُوا۟ ٱللَّهَ ٱلَّذِىٓ إِلَيْهِ تُحْشَرُونَ ٩٧

Кур'ан. Сура Аль-Маіда, аяты 95-97

ахвярных жывёл ад звычайных). І гэта для таго, каб вы ведалі, што Аллагу ведама усё, што на зямлі і ў небе (адбываецца). І ведайце: у пакаранні суровы Аллаг! І усё ж, прабачае Аллаг і праяўляе літасць.

99. І абавязак, што ўскладзены на Пасланніка, - толькі паведамленне (пасланне Аллага). І Аллагу ведама ўсё; і тое, што вы робіце адкрыта, і тое (што так старанна) хаваеце ў душы.

100. Скажы: "Не аднолькавы агіднае і добрае, хоць бы і падабалася тое, што з'яўляецца дрэнным". Найперш бойцеся Аллага, о вы, надзеленыя розумам! Быць можа, будзеце шчаслівымі!

101. О вы, каторыя паверылі! Не пытайце пра рэчы, якія засмуцяць вас, калі яны вам адкрыюцца. А калі вы спытаеце пра іх, то вам пасылаецца Кур'ан, яны вам будуць растлумачаны. Аллаг даруе вам за гэта, - Літасцівы Ён і (у пакаранні) стрыманы.

102. Былі да вас такія людзі, што ставілі такія ж пытанні, але (атрымаўшы адказ) пазней аказалася, што яны не вераюць.

103. Не даў Аллаг нічога такога, як бахіра або саіба, васіля або гамін*, але тыя, каторыя не верылі, і выдумляюць хлусню на Аллага (прыпісваючы гэта Яму). І няма ніякага розуму ў большасці з іх.

---

* У кнізе Валерыі Порахавай "Перевод смыслов и комментарии Корана" (Москва, 1993, комментарий № 351, стр. 569-570) сказана: "Гаворка ідзе аб забабонных (предрассудках) звычаях язычнікаў. "Бахіра" - вярблюдзіца або самка іншай свойскай жывёліны, якая прынесла багаты прыплод, звычайна адзначалася паметай і прысвячалася богу язычнікаў. "Саіба" - вярблюдзіца ці самка іншай свойскай жывёлы адпускалася на волю гаспадаром ці яго роднымі, калі чалавек вяртаўся дадому пасля доўгага і небяспечнага падарожжа, або выздараўлення пасля цяжкой хваробы. "Васіля" - самка, якая ацялілася цялятамі-блізнятамі пяць разоў запар. Яна прысвячалася язычніцкаму богу. Прысвячэнне гэта заключалася ў тым, што не далі жывёліну, не стрыглі воўну, не скарыстоўвалі на работах. "Гамін" - самец свойскай жывёлы, ад якога атрымалі вялікі прыплод. Яго не скарыстоўвалі ў рабоце і прысвячалі язычніцкаму богу. Усе гэтыя забабоны (большасць арабаў да прыняцця Ісламу былі язычнікамі), як несумяшчальныя з Ісламам, Мухаммед - пасланнік Аллага - рашуча асудзіў і адкінуў.

104. Калі ім кажуць: "Прыдзіце ж да таго, каго вам прыслаў Аллаг, да Яго пасланніка прыдзіце", - яны адказваюць: "Хопіць нам таго, што мы знаходзім у нашых бацькоў!". Няўжо і тады, калі ў іх бацькоў не было ні разумення ні настаўлення (Аллага)?

105. О тыя, якія паверылі! Самі вы адказныя за свае душы. Не перашкодзіць вам той, хто зблудзіў, калі вы ідзеце дарогай простай. Да Аллага ўсе вернецеся і Ён скажа вам пра тое, што вы рабілі !

106. О вы, якія паверылі! Калі да каго-небудзь з вас прыдзе смертны час, пры складанні завяшчання сведкамі ў вас павінны быць двое з вашай акругі, ці двое з іншых, не вашай веры (хрысціяне ці іудзеі), калі вы падарожнічаеце ў чужых краях і вам пагражае небяспека смерці. Але калі вы ў сумленнасці іх не ўпэўнены, то затрымайце іх пасля малітвы (звычайна Аль Аср) і няхай клянуцца імем Бога: "Сведчанне гэта не прадамо мы ні за якую цану (даброт зямных), хаця б і пайшло гэта на карысць нашым блізкім; і мы не схаваем гэтага сведчання, якое мы імем Бога далі, - інакш былі б мы, сапраўды, з грэшнікаў".

107. І калі б здарылася, што яны абодва заслужылі абвінавачванне ў граху, то двое другіх, больш дастойных, зоймуць іх месца, супроць якіх прэтэндуюць на спадчыну. І няхай клянуцца імем Аллага: "Сведчанне, якое мы даём, больш справядлівае за сведчанне тых двух папярэдніх. І мы не схлусім, інакш былі б мы беззаконнымі".

108. Гэта - бліжэй да таго, каб яны давалі сведчанне пра яго крывадушша і баяліся таго, што пасля іх бажбы будзе зноў паўторана бажба. Бойцеся ж Аллага і слухайце, - бо Аллаг не вядзе народа распуснага!

109. У той дзень, калі пакліча Аллаг пасланнікаў і скажа: "Які быў водгук (на заклікі вашыя)?". Яны адкажуць: "Гэтага мы не ведаем. Табе Адзінаму ўсе тайны адкрытыя".

110. І скажа Аллаг: "О Іса, сын Марйам! Успомні аб Маей міласці да цябе і маці тваёй, калі Я духам умацаваў цябе святым, каб і маленькім яшчэ ў калысцы, і дарослым ужо мужчынам ты

звяртаўся з прамовай да людзей. Пісанню і мудрасці цябе
Я навучыў, Евангеллю і Законам (Тора). І вось ты воляю
Маёй з гліны стварыў выяву птушкі, дыхнуў на яе, і воляю
Маёй яна стала жывою. І воляю Маёй ты вылечыў таго, хто
нарадзіўся невідушчым. І хворага на праказу ты вылечыў
Маей воляй, і ажывіў Маей воляй памерлых. І вось Я утры-
маў сыноў Ісраіля, калі ты прыйшоў да іх з яўнымі доказа-
мі. І тыя, якія не паверылі, сказалі: "Гэта яўнае чара-
дзейства".

III. І вось Я абвясціў апосталам: "Паверце ў Мяне і Майго па-
сланніка!" Яны сказалі: "Паверым! Дай сведчанне, што мы
цалкам падданыя!"

II2. Сказалі апосталы: "О Іса, сын Марйам! Ці твой Бог можа
падаць нам трапезу (Застаўлены стол) з неба?" Ён сказаў:
"Бойцеся Бога, калі вы паверылі!"

II3. Яны сказалі: "Мы жадаем (гэтай трапезы) пакаштаваць і су-
пакоіць нашы душы, і будзем ведаць, што ты сказаў нам
праўду, і гэтаму мы будзем сведкамі".

II4. Сказаў Іса, сын Марйам: "О Божа, Уладыка наш! Падай нам
трапезу з неба, і стане святам яна, знакам ад Цябе для
ўсіх: ад першага да апошняга з нас. Даруй нам пасілак, бо
Ты ёсць найлепшы з тых, хто забяспечвае!"

II5. Адказаў Бог: "Сапраўды, Я гэта вам пашлю. А хто з вас
будзе пасля няверным, то Я, сапраўды, пакараю яго такой
карай, якой не караў яшчэ ні аднаго з народаў".

II6. І скажа (у Дзень Суда) Аллаг: "О Іса, сын Марйам! Няўжо
ты людзям казаў: "Мяне і маці маю, акрамя Бога, прыміце
Багамі!" "Хвала Табе", - адкажа Іса. "Як гаварыць мне
тое, на што я не маю права? Калі б я казаў такое, Ты, на-
пэўна, ведаў бы гэта, - Ты ведаеш, што ў маёй душы, і што
ў Цябе ў душы; бо Табе ўсе таямніцы адкрытыя.

II7. Я не казаў ім нічога, акрамя таго, аб чым Ты мне загадаў:
"Пакланяйцеся Богу, Гаспадару майму і Госпаду вашаму!"
Пакуль сярод іх я знаходзіўся, я быў сведкам аб іх. Калі ж
Ты паклікаў мяне да Сябе, Ты стаў над імі Назіральнікам, -

бо Ты - сведка ўсяму, што існуе!

118. Калі Ты пакараеш іх, бо яны ж - Твае рабы, а калі Ты даруеш ім, бо Ты магутны і мудры бязмерна!"

119. Сказаў Аллаг: "Гэта - Дзень, калі дапаможа праўдзівым іх праўдзівасць. Ім - сады, дзе ўнізе цякуць рэкі, яны там будуць знаходзіцца вечна". Аллаг задаволены імі, а яны задаволены Ім. І гэта ёсць вялізнае дасягненне!"

120. Аллагу належыць улада над небам і зямлёю і над тым, што ёсць паміж імі. І Ён над усім усёмагутны!

Яшчэ ў канцы мінулага года я лічыў расейскую недзяржаўную прэсу ўзорам галоснасьці на былых савецкіх абшарах. Фактычнасьць, крытычнасьць, сур'ёзнасьць аналізу, дакладнасьць прагнозу - усе гэтыя якасьці добрай журналістыкі відавочныя. Вядома, хапала і заганаў, але ўсё ж расейскім журналістам было чым ганарыцца. Ва ўсялякім разе ў параўнаньні з большасьцю беларускіх "работнікаў пяра".

Але пачалася вайна ў Чачні, і нешта незразумелае для мяне стала адбывацца ў расейскіх газэтах. Спачатку аб'ектамі рэпартажаў былі простыя людзі: жыхары Чачні (у тым ліку ня толькі рускамоўныя), расейскія салдаты, палонныя, зрэдку нават абаронцы Чачні. Пакуль фэдэральныя байцы штурмавалі Грозны, распаўсюджанай была тэма разбурэньняў гэтага горада. Хаця заўважу: інфармацыя аб тым, што менавіта расейскія самалёты і гарматы бамбяць ды абстрэльваюць мірныя будынкі, сустракалася вельмі рэдка. Маўляў, зразумела, хто гэта робіць.

Але чым далей ад Грознага рухаліся войскі, тым меншым рабіўся ручаёк навінаў з Чачні. Гудэрмэс, Аргун, Ведзяно і Шалі - гэтыя назвы разбураных і спаленых гарадоў наогул былі б невядомыя, калі б не кароткія рэпартажы па тэлебачаньні (зразумела, не па беларускім). Аднак, пачынаючы з сакавіка і да падзей у Будзёнаўску, чачэнская тэма стала як бы нямоднай. Такое ўражаньне, што рэдактараў маскоўскіх выданьняў ці то запалохалі, ці то яны самі, як адданыя рынчачнікі, разабраліся, што антываенная тэма падчас разгулу імпэрскіх настрояў не надта спрыяе росту тыражоў.

Што ж тычыцца грамадзкае думкі, нагадаю, што спачатку нейкія хістаньні ў бок чачэнцаў яшчэ назіраліся. Здавалася, вось-вось рух салдацкіх маці ўздыме такую хвалю пратэстаў, што кіраўніцтва Расеі вымушана будзе спыніць бойню. Але гэтага не адбылося. Жанчын з плакатамі і фотаздымкамі прапаўшых бязь вестак сыноў перасталі паказваць па тэлебачаньні, журналістаў не пускалі ў шпіталі (ці яны туды не імкнуліся). Усё часьцей замест жыхароў у падвалах без сьвятла, ежы і вады сталі браць інтэрвію ў чырвонатварых генэралаў, якія, седзячы ў бліндажах, абураліся з

нагоды чарговага часовага перамір'я: маўляў, гэтыя паўзы толькі чачэнцам на карысьць! I яны свайго дамагліся: недзе бліжэй да красавіка расейская прэса і электронныя СМI прыйшлі да агульнай думкі - посьпех чачэнскай кампаніі ня ў мірных перамовах, а ў найхутчэйшым завяршэньні яе вайсковымі сродкамі.

Вось калі выбухнуў Будзёнаўск. Вось чаму ён быў громам сярод яснага дня. Грамадзкасьць Расеі ўжо расслаблілася, ужо заблішчэла для яе перамога "над чачэнамі" і раптам ... такая параза! Згодзен, што кашчунна параўноўваць колькасьць ахвяраў у Чачні і Будзёнаўску, але ці ўзарвалася б такім жа гневам расейскае грамадзтва, калі б яму паказалі тысячы ахвяраў мірных жыхароў Чачні, загінуўшых ад расейскіх бомбаў?! Вельмі хацелася б верыць у гэтыя гіпатэтычныя гнеў і боль, але рэч у тым, што гора Чачні не пакажуць так, як паказалі гора Будзёнаўска. У Крамлі няма дурных! Там вельмі добра ведаюць кошт такіх "карцінак" і паклапоцяцца, каб іх не паказалі простым расейцам.

Будзёнаўск адбыўся пасьля таго, як расейскія войскі пачалі выкарыстоўваць для захопу чарговага сяла Чачні метад татальнай вайны - папярэдняе зьнішчэньне ўсёй жылой зоны. Ахвярамі гэтай тактыкі сталі зноў жа мірныя жыхары - бежанцы з Грознага ды іншых буйных гарадоў рэспублікі, якія знайшлі прытулак у гасьцінных горцаў. Будзёнаўск і стаў адказам на бесчалавечную татальную вайну. Можна толькі зьдзіўляцца, што пакуль гэта адзіны такі адказ... Але каб шчыра зьдзіўляцца, трэба, папершае, больш-менш валодаць праўдзівай інфармацыяй, па-другое, слухаць і глядзець ня толькі расейскае радыё і тэлебачаньне, пасля якіх усе мы нібыта пакрываемся коркай бяздушнасьці. Чаму нам не спачуваць чачэнцам? Няўжо яны, сапраўды, усе бандыты, якія заслужылі Божую кару? Няўжо гэта ад нас хацела адыйсьці Чачня? Няўжо гэта нашую нафту зьбіраюцца ўкрасьці? Не. Аднак нешта адбылося і ў сьвядомасьці беларусаў. Чамусьці падзеі ў Чачні мы ўспрынялі досыць абыякава.

Толькі падчас падзеяў у Будзёнаўску наша цікавасьць да чачэнцаў зноў павысілася. "Комсомольскую правду", "Известия", "Труд" у кіёсках было не купіць нават у 9 гадзін раніцы, некаторыя чакалі праграму расейскіх навінаў больш, чым "Санта-Барбару". Кажу гэта з уласных уражаньняў, але пераканана. Падзеі ў Будзёнаўску сталі для мяне нечым большым, чым проста вартым

журналісцкай увагі фактам: яны закранулі тое пачуцьцё, якое называецца сорам. Першы яго ўкол я адчуў, калі ў "Комсомольской правде" прачытаў аб тым, як муж адной з заложніцаў "расчараваў" журналістаў, якім абяцаў арганізаваць інтэрвію з жонкай. Маўляў, яна зараз гаворыць зусім ня тое, што патрэбна, яна бароніць сваіх захопнікаў-чачэнцаў і абвінавачвае салдат, якія штурмавалі шпіталь. Уяўляю расчараваньне маскоўскіх журналістаў, ад якіх рэдакцыя патрабавала апэратыўнага матар'ялу. Відаць, вымушаныя былі марнаваць час на новыя пошукі - не абараняць жа чачэнцаў, калі ўся краіна іх праклінае. Але, пагадзіцеся, такое расчараваньне не магло ўзьнікнуць у журналістаў замежных краінаў. Наадварот, нечаканы паварот у адносінах паміж чачэнцамі і заложнікамі "цягнуў" на сапраўдную сэнсацыю.

Яшчэ большую расколіну ў маіх асабістых меркаваньнях пра вайну ў Чачні зрабіў спэцкарэспандэнт "Известий" Валерый Якаў. У ягоным рэпартажы з Будзёнаўска "перажываньне заложнікаў" было ўжо ня фактам, а лейтматывам артыкулу. Прапаную зазірнуць у рэпартаж В.Якава "Як гэта было", які зьявіўся ў газэце 23 чэрвеня.

Некалькі цытатаў: "Нас сегодняшний штурм многому научил, - говорит сидящая рядом Светлана Елисеева, заместитель главного врача больницы. - Пули доставали не только у окон в кабинетах, но и здесь, в коридоре. Хорошо, хоть ребята чеченцы вовремя затащили в глухие участки детей и показали, как надо прятаться. Иначе погибло бы значительно больше людей".

..."Врачи рассказывали мне, как во время дневного штурма многие мужчины-заложники, увидев, как рядом гибнут люди, умоляли чеченцев дать и им оружие, чтобы отстреливаться от спецназа. Бессмысленный, жестокий и абсолютно проваленный штурм самым неожиданным образом сплотил террористов и заложников. На разных этажах мне довелось не раз услышать эмоциональные рассказы о том, как "наши ребята спасали от тех варваров и убийц". "Нашими ребятами" заложники называли террористов".

..."Покидая больницу, почти все боевики просили прощения у врачей и остающихся заложников за происшедшее. "У нас не было другого выхода, иначе бы эта война никогда не закончилась. Простите нас!" - говорили они. "Спасибо вам, ребята, берегите себя", - отвечали врачи и женщины-заложницы. Всё происходящее на-

поминало какой-то жуткий театр абсурда. Женщины, на руках которых шариковыми ручками ими же самими были выведены собственные фамилии и адреса, чтобы в случае гибели труп не остался неопознанным, пожимали руки террористам, протягивали им сохраненные продукты и воду, а потом еще долго махали вслед нашей удаляющейся колонне".

..."Мегафон взял главный разработчик операции Асламбек Исмаилов и произнес: "То, что мы сделали в Буденовске, не является актом мести, мы вынуждены были пойти на такой шаг, чтобы остановить уничтожение нашего народа".

Канечне, чытач не павінен верыць на слова, якім бы шчырым гэтае слова ні падавалася. Тым больш, што самыя ілжывыя словы заўсёды вымаўляюцца шчыра! Таму і паўстае слушнае пытаньне: ці можна верыць людзям, якія абралі шлях вайны, хоць яны і лічаць сваю барацьбу самай справядлівай?

Але "верыць ці ня верыць" - справа другасная, спачатку трэба мець інфармацыю. Крыніцай такой інфармацыі для мяне сталі шэсьць відэакасэт, што патрапілі да нас у рэдакцыю. Яны запісаны ў Чачні, але не чачэнскімі апэратарамі, а тэлевізійшчыкамі з CNN , Associated Press , Reuter , шматлікімі расейскімі тэлежурналістамі. Вядома, што ўсё, пачутае падчас гэтага 18-гадзіннага тэлемарафону, не ўмясьціць і на два нумары газэты СВАБОДА. Я выкарыстаў толькі самыя, на мой погляд, балючыя сцэны, размовы. Цалкам адмаўляюся ад сваіх камэнтараў, нават прамаўчу там, дзе стрымацца зусім немагчыма. Услухаемся ж у гэтыя галасы, многія зь якіх, мне здаецца, належаць ужо загінуўшым людзям.

Інтэрвію з двума расейскімі палоннымі

Адзін: "Калі ўсе разам адмовяцца ад удзелу ў гэтай вайне, то могуць войскі і адвесьці. Калі ж паасобку, то не. Ня ведаю, якім законам карыстаецца Ельцын, калі забівае тут мірных жыхароў. Бамбёжкі як у Афганістане".

Другі: "Хачу сказаць усім салдатам, якія наступаюць на Грозны: "Хлопцы, ня трэба гэтага рабіць".

Барадаты чачэнец гадоў 40: "Я хачу быць незалежным, свабодным чалавекам. Я не за Дудаева ваюю, я за сваю свабоду ваюю".

Жыхарка Грознага: "Што ім трэба? Навошта яны бамбяць нас? Вось пяціпавярхоўка параненая. За што яны наш дом бамбілі? Тут баеві-

коў няма і ніколі не было".

Аслан Масхадаў, начальнік галоўнага штабу ўзброеных сілаў Чачні, сустракаецца з мацяркамі палонных: "Калі мы перавялі сюды палонных, вашых сыноў, хацелі трымаць іх у будынку гаўптвахты, але пачакалі. У той жа дзень гаўптвахту бамбілі. Яны хочуць зьнішчыць вашых сыноў".

Старая жанчына: "Навошта такую грамаду войска сюды прыцягнулі? Хіба мірна нельга было дамовіцца?"

Чачэнскі камандзір вяртае палонных: "Больш сюды не прыяжджайце, толькі ў госьці можна".

Чачэнскія старыя: "Прыпыніць нас здолее толькі Усявышні".

Расейская жанчына: "Салдацікам расейскія афіцэры морды б'юць, хто ня хоча ваяваць. Дваіх пацаноў зь верталёта скінулі".

Джахар Дудаеў: "Па якіх жа стратэгічных аб'ектах ідуць бамбардзіроўкі? У ліку іх шпіталь вэтэранаў вайны і працы".

Дэпутат расейскай Думы Віктар Шэйніс: "Ідзе варварская вайна супраць свайго ж народу. Трэба спыніць гэтую бойню".

Леў Панамароў: "Ідзе бамбёжка, там знаходзяцца сотні параненых, у тым ліку і нашых салдат. Чачэнцы ставяцца да іх вельмі гуманна..."

Айцец Глеб Якунін: "Прэзідэнт, які стаіць са сьвечкай у храме, крывадушны. Бо ён даў каманду, каб ішла бамбёжка... Але там тысячы апалчэнцаў, ім усё роўна не прайсьці".

Сяргей Кавалёў: "Расейскія танкі зьнішчаюць усё, што перашкаджае іхнаму абзору".

Шаміль Басаеў зьвяртаецца да палонных: "Ваш урад вас не паважае. Навошта ж вас сюды ўводзілі? У вас не хапіла грамадзянскай мужнасьці, каб ня ўдзельнічаць у гэтай вайне...

- Нам загадалі.

- Загадалі? Вам загадаюць у родную маці страляць, вы і гэты загад выканаеце? Трыбунал? Дык таксама ж пад трыбунал пойдзеце. Навошта сюды прыехалі страляць, навошта?"

Абдула Асманаў, інжынер-будаўнік: "Мы прымусім расейскіх палонных аднавіць усё, што яны зруйнавалі. Мы будавалі гэтыя дамы, а іх прымусім аднавіць... У нас і інтэлігенцыя ваюе, усе ваююць".

Параненая чачэнка: "Што я дрэннага Ельцыну зрабіла? Чаму

ён так з намі абыходзіцца? За што мірных жыхароў бамбяць? Няўжо ў Ельцына ўнукаў няма, за што ён маіх дзетак бамбіць?"

Інтэрвію з маладым чачэнцам:

- Колькі вы яшчэ будзеце ваяваць?

- Пакуль іхныя войскі не пакінуць нашу зямлю. Нам губляць няма чаго. Нашыя дзяды ваявалі, і мы будзем.

Інтэрвію з партызанамі ў горах:

- Мы ня дома не таму, што нам там ня цёпла... Няхай Ельцын падумае, ці варта пасылаць танкі ў Чачню. Мы ягоных танкаў не баімся, наша справа іх зьнішчаць.

Джахар Дудаеў: "У Расеі ня ведаюць, што яны тут робяць, як дзейнічаюць. Нават ніхто загадаў Грачова не выконвае. Ніхто не трымае свайго слова, ні ў войску, ні ў палітычным кіраўніцтве. Ідзе сапраўдная агрэсія, пры гэтым пытаньне ставіцца такім чынам, што ахвяры агрэсіі павінны скласьці зброю і пагадзіцца на фізічнае зьнішчэньне. Мы ім аддаем палонных проста так. І салдат, і афіцэраў. Яны нашых палонных зьбіваюць, скідваюць з верталётаў, вырываюць ім залатыя зубы..."

Старая чачэнка: "Навошта рускіх жыхароў забіваюць? Нас, чачэнцаў, забівай, іх не чапай, яны пры чым?"

Маладая чачэнка з аўтаматам: "Мы ня хочам вайны, нам яе навязалі, але калі вайна пачалася, мы будзем ваяваць з гонарам".

Аўтарханаў: "Пытаньне не стаіць аб зьнішчэньні народа. Пытаньне аб адхіленьні Дудаева ад улады, і мы гэта вітаем".

Расейская жанчына з Сыктыўкара: "Свайго сына я знайшла ў Грозным, яго разам зь іншымі палоннымі трымалі ў падвале. Потым перавялі сюды, у Шалі. Баевікі гэта зрабілі вельмі акуратна, бяз стратаў... У нас зараз надзея толькі на чачэнскіх баевікоў, расейскія ўлады нам не дапамагаюць".

Жанчына з сынам: "Чачэнскі народ - гэта дзіўны народ, у яго нам яшчэ павучыцца дабрыні і гасьціннасці. Майго сына яны адпусьцілі, людзі добрыя дапамаглі. Хто дапамог? Шарыф Ісмаілаў".

Шарыф Ісмаілаў: "Сорамна нам усім. 250 мільёнаў, а ня можам спыніць гэтую вайну, ня можам спыніць двух-трох чалавек. Сорамна... Вось у мяне зараз праблема, як гэтага хлопчыка з мясці адсюль вывесьці? Праз чачэнскія атрады мы пройдзем, а як прайсьці праз расейскія?"

Расейская жанчына: "Тут мясцовых жанчын амаль не засталося. Але дзіўна, мы ходзім тут столькі дзён, і ніводзін чачэн з аўтаматам, са зброяй да нас не чапляецца. А старыя людзі ўсё пытаюцца, ці ёсьць нам дзе пераначаваць і запрашаюць да сябе".

Самед Хасан: "Калі застануся жывым, пад зямлёю знайду тых лётчыкаў, што бамбілі маю Чачню. Ніколі ў мяне міру зь імі ня будзе. Жанчыны, дзеці стаяць, а яны на іх бомбы кідаюць. Што гэта, калі не фашызм?"

Чачэнскі баявік: "Вось толькі гэты аўтамат атрыманы ад міліцыі. Усю іншую зброю для нашага атраду мы купілі ў расейскіх вайскоўцаў. Яны тут не для таго, каб наводзіць парадак, а каб забіваць, марадзёрстваваць ды зброяй гандляваць".

Расейская жанчына: "Я нарадзілася пад Омскам, а жыла тут, мой муж - чачэнец. У мяне тры сыны, яны былі студэнтамі, а цяпер ня ведаю дзе. 28-га лютага нас бамбілі, мяне паранілі. Цяпер жыву тут, у чужых людзей, бяз дома, бяз родных. Мне сорамна за расейскіх салдат, якія бяздушныя, у іх няма Бога, няма нічога сьвятога".

Чачэнка Аза: "З гэтымі салдатамі міру ніколі ня будзе. Яны ўсе марадзёры. Кватэры нашыя рабуюць, набіваюць валізы і ўсё вывозяць. 90% жыхароў Чачні зноў выберуць прэзідэнтам Дудаева, а зброю не аддадуць, бо калі не аддаць, то ўсіх арыштуюць".

Маладая чачэнка з Грознага: "Нам кажуць: вяртайцеся ў Грозны. А куды вяртацца? Там усё разрабаванае, дзьверы выламаныя. Што ня могуць вывезьці, зьнішчаюць з аўтаматаў. Я паехала паглядзець на сваю кватэру на вуліцы Гвардзейскай і сама бачыла, як салдаты грузілі поўную машыну тэлевізараў. З усёй вуліцы сабралі".

Чачэнка сярэдняга ўзросту: "Кажуць, мы ўсё аднавім. З чаго яны аднавяць? У іх саміх заводы стаяць, людзі галадаюць, настаўнікі бастуюць, а яны ўсё тут парушылі і кажуць - аднавім. Сьмешна!"

Расейская жанчына: "Гэта ідзе пагалоўнае зьнішчэньне. Нас увесь дзень чатырма самалётамі бамбілі. Што гэта такое?.. Ніякага Аўтурханава ці Хаджыева ня выберуць, хто за імі пойдзе? Я скажу нават так: пакуль апошні расейскі салдат з Чачні ня пойдзе, міру тут ня будзе".

Чачэнка ў шпіталі разам з параненай дзяўчынкай: "Яны трапі-

лі пад бамбёжку, калі ехалі з Грознага. Маці і 12-гадовы хлопчык загінулі, а гэтая дзяўчынка засталася, але яна бяз ножак. У тым грузавіку загінула 11 чалавек. Хто вінаваты ў вайне? Расея вінаватая і апазіцыя вінаватая. Больш ніхто".

Цяжка параненага чачэнца пытаюцца: "Вы таксама трапілі пад бомбу?"

– "Не, я гэтых сволачэй хадзіў зьнішчаць. Гэта ня людзі, гэта зьвяры. З кім яны ваююць? Зь дзецьмі ды з жанчынамі? Учора ўвесь дзень бамбілі сяло, дарогі, бежанцаў. З кім яны ваююць? Іх трэба ўсіх сабраць і спаліць. Спаліць".

Цяжка параненая маладая жанчына: "Мы паехалі з мужам забраць карову, але прыляцеў верталёт. Мы хаваліся на могілках, і там ён мяне параніў у бок і ў руку, вельмі глыбока. Потым да вечара сядзелі ў яме з вадой, а верталёт усё лётаў і страляў".

Расейская дзяўчына: "Я тут нарадзілася і вырасла. У нас ніякіх сварак з чачэнцамі не было. Калі я ўбачыла, што тут вырабляюць салдаты, я вырашыла дапамагаць чачэнцам. Я медсястра. Тут у атрадзе і мая настаўніца, якая вучыла мяне чачэнскай мове".

Чачэнка з аўтаматам: "Так, я гэтая настаўніца. Мой малы сын далёка ад Чачні, я пасьпела яго адвезьці і зараз ваюю. Пытаюся ў вас: што іх прымушае бамбіць мірных жыхароў? Учора ўвесь дзень бамбілі Ведзяно. Навошта?"

Расейская жанчына з аўтаматам: "Мой сын у Чачні загінуў, яго кінулі на штурм вакзала ў Грозным. Ненавучанага, неабстралянага. Ён загінуў па віне расейскіх палітыкаў, і я вырашыла за яго помсьціць. Узяла ў рукі зброю і змагаюся разам з чачэнцамі, пакуль апошні салдат адсюль ня пойдзе. Я заклікаю ўсіх жанчын, чые сыны тут загінулі, не чакаць кары Божай, а помсьціць самім. Я ўжо не разьлічваю на грамадзкую думку ў Расеі, трэба самім спыняць гэтых палітыкаў".

Шаміль Басаеў (адказвае на пытаньні расейскіх жанчын): "Я ведаю пра гэты выпадак. Гэта было падчас перамір'я. Толькі снайперы з двух бакоў стралялі, але баёў не было. Гэты бэтээр прайшоў ужо нашу першую заслону, яго прапусьцілі, але ён не спыніўся, і каля другой заслоны яго зьнішчылі. Там усе загінулі. У ім знайшлі ў дакументах два жаночыя пярсьцёнкі і залаты акрываўлены зуб. Вось чым займаліся вашыя сыны".

Старая чачэнка зь сяла Германчук: "Нас другі раз вы'яляюць. У Сібіры ўжо былі, зараз зноў. Кожны дзень па пяцьшэсьць самалётаў на нас бомбы кідалі, яшчэ калі Грозны бралі. А Шалі бамбілі яшчэ І сьнежня, Аргун бамбілі 30 лістапада".

Жанчына: "Дзе генэрал Лебедзь, які крычаў, што вырве глоткі ў Грачова, калі будуць масавыя пахаваньні? Дзе ён? Ваенны лётчык па тэлевізары кажа, што яны жыхароў не бамбілі. Вось малая дзяўчынка гэта ўбачыла і кажа: "Калі такі вялікі дзядзя так хлусіць, то каму верыць?"

Аслан Масхадаў: "Вайна толькі пачынаецца. Мае салдаты на другім этапе вайны сталі больш дысцыплінаванымі. А ў гарах можна ваяваць шмат гадоў..."

Такімі грознымі словамі я вымушаны закончыць гэтае доўгае цытаваньне ня дзеля таго, каб некага напалохаць. Сапраўды, шостая касэта заканчваецца інтэрвію з начальнікам галоўнага чачэнскага штаба. Знаходзіцца ён у гарах, каля будынку пад шатром з маскіровачнай сеткі і галінаў. Бачна, што чачэнскі бок добра падрыхтаваўся да партызанскай барацьбы, што слоў на вецер чачэнцы ня кідаюць.

А што новага ў расейцаў? Галоўная навіна - указ прэзідэнта Ельцына, які "прышпіліў" расейскія войскі да чачэнскай зямлі. Калі нагадаць патрабаваньні чачэнцаў аб вывадзе войскаў, то гэты ўказ робіць перамовы, якія вядзе зараз урад Расеі з прадстаўнікамі Джахара Дудаева, па-сутнасьці безсэнсоўнымі. Бо пакуль расейскае войска не пакіне Чачню, чачэнцы ніякіх пагадненьняў не падпішуць і на "нулявыя" варыянты ня пойдуць. А гэта значыць, што "невядомая вайна", сэнс якой бачыцца мне ў зьнішчэньні Чачні, непазьбежна адновіцца...

Алег Груздзіловіч
"Свабода", 7 ліпеня 1995 г.

ТРАГЕДИЯ В БУДЁННОВСКЕ

До 14 июня 1995 г. в Беларуси мало кто слышал про город Будённовск. До 1920 г. это было село Святой Крест, в 1920-1935 и 1957-1973 Прикумск, город, районный центр в Ставропольском крае, на р. Кума. 54 тыс. жителей (1987). Железнодорожная станция. Производственное объединение "Ставропольполимир", ленто-ткацкое производственное объединение, предприятия пищевой промышленности. Основан в 1799 г., переименован в честь С.М. Буденного. Вот что можно прочитать в несколько устарелом справочнике.

Телевидение и радио сообщили, что в этом городе дудаевцы захватили заложников. Погибло много людей - мужчин, женщин, детей. Казаки, журналисты, политические деятели разного уровня принялись самыми крепкими словами поминать мусульман, их веру и обычаи. Но вера мусульманская и обычаи мусульманские, основанные на Святом Кур'ане и Сунне, категорически против взятие заложниками безоружных людей. Нарушать мусульманские правовые законы - Шариат - и оставаться мусульманином - это несовместимые вещи.

Каким же образом чеченцы превратились в насильников ? На протяжении многих десятков лет коммунисты боролись с религией, в том числе и с мусульманской религией на Кавказе. Преследовали, помещали в тюрьмы и концлагеря священников, запрещали собираться мусульманам и молиться, слушать поучения о мусульманской вере и мусульманских обычаях. В 1943 году чеченцев под конвоем выселили из родных мест, а тем, кто каким-то образом остался, досталась еще более страшная доля - они были убиты, а то и заживо сожжены „славными чекистами".

Не из учебников по истории Коммунистической партии, не из школьных учебников по истории, но люди знали, что взятие заложников широко практиковалось во время гражданской войны. Нередко в газетах публиковались фамилии людей, взятых советской властью заложниками. Во время похода Деникина на Москву, когда кавалерийский корпус Мамонтова был уже под Тулой, большевики напечатали список заложников, которые будут расстреляны при наступлении беляков на город. Многие белые офицеры нашли в этих списках фамилии своих родных и близких. И дрогнули белогвардейцы, не пошли на штурм города. Советская власть была спасена.

Взятие заложников - это совсем не рыцарское ведение войны.

Если уж воевать по-рыцарски, то прежде всего необходимо объявить войну противнику, воевать с противником одинаковым оружием. Могучая держава, имеющая армию, превосходящую армию противника в сотню раз, космические средства слежения, космические средства связи, авиацию, ракетные установки, танки и вездеходы, морскую пехоту Североморского и Тихоокеанского флотов, опытных командиров, награжденных Золотыми Звездами за выполнение интернационального долга в Афганистане, т.е. абсолютное превосходство в силе против чеченцев. Немало значит и то, что правительства западных стран не поддержали чеченский народ в борьбе за независимость, ибо ныне могучие и кичащиеся своими демократическими законами страны еще недавно строили и расширяли свои государства, уничтожая коренных жителей земель, на землях которых найдены нефть и другие полезные ископаемые, на полях которых родится пшеница, кукуруза и хлопчатник. Даже очень-очень христианские страны, которые ведут беспощадную войну с католиками-христианами, а мусульманские страны - соседи России - ведут войну с курдами-мусульманами, вина которых состоит лишь в том, что они хотят вольно жить на земле, на которой живут уже более двух тысяч лет и которая дарована им Аллахом.

Оправдать людей, захвативших заложников 14 июня в Буденновке, нельзя. Помочь горю тех, кто потерял в этой кровавой драме своих родителей, детей, супругов - невозможно. Может быть эти жертвы надоумят воюющие стороны продлить перемирие и вовсе прекратить войну.

Пусть молятся Аллаху мусульмане за примирение на Кавказе. Пусть молятся христиане Богу, чтобы он надоумил руководителей России уйти из Чечни, чтобы русские родители, отправляя сыновей на воинскую службу, встречали их живыми, а не в цинковых гробах.

Но случится лишь то, что уготовано Богом.

# ДОБРАЯ ТРАДЫЦЫЯ

У татараў-мусульман з даўнішніх часоў захавалася добрая традыцыя - ўшаноўваць памяць сваіх продкаў. І рабілася гэта раней, і працягваецца яна цяпер шляхам наведвання нашчадкамі мізараў (могілак), дзе пахаваны іх прадзеды, дзяды і бацькі. У апошняе дзесяцігоддзе на мізарах збіраецца ўсё больш і больш людзей, і гэта радуе, бо людзі пачалі вяртацца да свайго нармальнага стану - успамінаць і ўшаноўваць не толькі сваіх бліжэйшых родзічаў, але і больш далёкіх. Гэта ўзбагачае іх унутраны свет сённяшніх людзей, дапамагае шырэй і больш аб'ёмна ўспрымаць цяперашняе жыццё і сувязь паміж людзьмі і гістарычнымі падзеямі.

Нядаўна (27.05.1995) вялікі з'езд татараў-мусульман адбыўся на мізары Відзскага джаміята, які знаходзіцца за 3 км ад гарадскога пасёлка Відзы Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці. Мізар знаходзіцца ў канцы татарскіх земляўладанняў, якія царскія ўлады калісьці адабралі ў татараў, каб пакараць іх за ўдзел у паўстанні за вольнасць і незалежнасць. Хоць мізар і не агароджаны, але ўтрымліваецца ў добрым стане.

З самага ранку да яго пацягнуліся людзі, хто пешшу, а хто ў аўтамабілях. Былі тут мусульмане не толькі з Відз, але і з Глыбокага, Маладзечна, Бягомля, Браслава, Шаркаўшчыны, нават з Літвы - з Вільні і са Свянцянаў. Усе прынеслі з сабою садагу, якую раздавалі прысутным і для тых, хто не мог прыйсці на мізар, каб памянуць сваіх родных. З удзелам асоб, навучоных па-мусульманску, чыталі Ясін і адпаведныя дуа, "давалі сялям" над магіламі родных.

У прысутнасці многіх сведак быў дадзены "азан" пяцігадовай дзяўчынцы Радкевіч Соф'і (Саманце), мама якой Танзіля вельмі хацела, каб яе дачка расла мусульманкай.

Затым быў праведзены кароткачасовы сход, на якім было паведамлена аб справах Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання, аб праблемах і цяжкасцях станаўлення і адраджэння, была раздача мусульманскай літаратуры, у тым ліку часопісы "Аль-Іслам" і "Байрам". Былі разгледжаны таксама пытанні, якія датычацца дзейнасці адроджанай мусульманскай абшчыны ў Відзах. Прынялі рашэнне, што

такія з'езды на мізары ў Відзах трэба праводзіць штогод у апошнюю суботу месяца траўня (мая).

Праз два тыдні (10.06.1995) падобны з'езд адбыўся на мізары ў Амбросавічах, што за 12-14 км ад горада Глыбокага Віцебскай вобласці. І сюды таксама з'ехаліся многія татары, акрамя глыбоцкіх былі татары з Докшыцаў, Маладзечна, Шаркаўшчыны, з Свянцянаў (Літва). Гэты мізар існуе з пачатку 20 стагоддзя (у адным з нумароў "Байрама", дзе было надрукавана пры глыбоцкіх татараў, напісана пра тое, як выбіралі месца спачынку для прыхаджан Глыбоцкага джаміята). Ад горада даволі далёка, дабіраліся людзі хто як мог. Займаліся тут тым жа самым, што і на іншых мізарах - упарадкавалі магілы сваіх родных, раздавалі садагу, "давалі сялям", чыталі Ясін. Прыемна адзначыць, што прыехалі на мізар і старэйшыя глыбоцкія мусульманіны - Сулейман Гембіцкі і Сулейман Мейшутовіч.

На сходзе, які адбыўся ў завяршэнне з'езда, былі разгледжаны пытанні дзейнасці Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання і перспектыва ўтварэння мусульманскай абшчыны ў Глыбокім. Са скрухай было адзначана, што выбраны два гады таму Савет абшчыны не змог аформіць афіцыйную рэгістрацыю абшчыны ў сувязі са смерцю выбранага старшынёй Савета Ісмаіла Канапацкага. Таму менавіта цяпер на сходзе 10 чэрвеня было выбрана новае кіраўніцтва Савета мусульманскай абшчыны, у якое ўвайшлі: Аляксандр Мількамановіч - старшыня, Давыд Канапацкі - намеснік старшыні, Роза Якубоўская - сакратар.

Былі даны наказы новаму кіраўніцтву па будучай дзейнасці, выказаны пажаданні па наладжванні працы на карысць адраджэння мусульманскай веры і мусульманскіх традыцый. І тут было прынята рашэнне, што ў Амбросавічах (Глыбокім) такія з'езды будуць праходзіць штогод у другую суботу чэрвеня месяца. І далей з'езды будуць у Докшыцах - у апошнюю суботу ліпеня, а ў 1995 г. з'езд адбудзецца ў Даўбуцішках - 4 жніўня (пятніца), у Ашмянах (Ласталі) - 30 чэрвеня (пятніца), у Свянцянах (Швянчонас у Літве) - 19 жніўня (субота). Пасля кожнага такога з'езда людзі раз'язджаюцца з пасвятлелымі тварамі, духоўна ўзбагачанымі, з роздумам аб чалавечым жыцці, аб тым, што дробязнае, а што важнае, вечнае, што трэба перадаць сваім нашчадкам, што трэба рабіць. Хай дапаможа Вялікі Аллаг у нашых добрых намерах і справах!

Ісмаіл Александровіч

## НА ЛОЎЧЫЦКІМ МІЗАРЫ

31 мая 1995 года наступіў новы 1416 год (па луннаму календару). Гэтай знамянальнай даце былі прысвечаны сходы і набожэнствы татараў-мусульман. Традыцыйна сабраліся ў першую пятніцу Новага года (2 чэрвеня 1995 г.) мусульмане з гарадоў і мястэчак Беларусі на старым мізары каля разбуранай мячэці ў вёсцы Лоўчыцы (недалёка ад Навагрудка). Адбылося ўрачыстае набожэнства (намаз) у памяць нашага прарока Мухаммеда ( мір і міласць Аллага яму). Імамам быў Сюлейман Рафаловіч, муэдзінам Мустафа Шабановіч (абодва з Іўя). Маліліся таксама мусульмане за душу Зуліі Кунтуся і ўсіх мусульман, пахаваных на лоўчыцкім мізары. Мір ім, міласць Аллага і яго благаслаўленне.

إِنَّا لِلَّهِ وَإِنَّا إِلَيْهِ رَاجِعُونَ (Інна Аллагу, уа інна ілейгі раджыун). Аллагу належым, да яго вяртаемся.

Рэдакцыя квартальніка папрасіла нашу добрую мусульманку, якая жыве ў Менску, а родам з Навагрудка, запісаць імёны і прозвішчы (фаміліі) тых мусульман, якія наведалі мізар у Лоўчыцах, што каля Навагрудка. Мы разумеем, што папрасіць скласці такі спіс лёгка, а выканаць цяжка. А ў чым цяжкасць? Проста падыйсці да чалавека і запытаць, адкуль ён ці яна, як прозвішчы і як яго пісаць, як імя па пашпарту і па азану. Нічога складанага, калі не лічыць тое, што чалавек падумае: "Няўжо ты не ведаеш маё прозвішча, я ж цябе бачыў некалькі разоў на гэтым месцы. А імя маё азаннае Мустафа, а па пашпарту Сцяпан. Так што скласці спіс, растлумачыць для чаго ён, гэты спіс, знайсці час, калі падыйсці (бо ў час малітвы нельга адцягваць чалавека да размоў), а там, глядзіш, і разышліся, раз'ехаліся людзі. Амаль штогод наша мусульманская ўмма, ды і не толькі ўмма, а і джаміят (парафія) маюць вялікую ўтрату - смерць мусульманіна ці мусульманкі. Тыя, хто засталіся жывымі, яшчэ могуць памаліцца за душу памерлага. А каб гэта зрабіць як след, трэба ведаць азаннае імя чалавека і азаннае імя маці чалавека. Дык паспяшайце, каб вашы супляменнікі-татары і мусульмане ведалі самае неабходнае пра вас.

Старалася выканаць просьбу "Байрама" Ліля Канарская, якая родам з Навагрудка, а жыве з сям'ёю ў Менску. Дзякуй ёй за вя-

лікія клопаты, а тых, хто не быў запісаны па нейкіх прычынах, просім даслаць звесткі пра сябе ў рэдакцыю "Байрама". Дай Бог сустрэцца з вамі нашаму карэспандэнту і ў наступным годзе (1417 Хіджра).

## МІЗАР У ЛОЎЧЫЦАХ НАВЕДАЛІ

## МУСУЛЬМАНЕ З НАВАГРУДКА:

Альміра АЛЕКСАНДРОВІЧ,
Іосіф АЛЕКСАНДРОВІЧ,
Ліля АЛЕКСАНДРОВІЧ,
Мяр'ема АЛЕКСАНДРОВІЧ,
Ева БАГДАНОВІЧ,
Роза БАГДАНОВІЧ,
Марыя КАЗАКЕВІЧ,
Сцяпан КАЗАКЕВІЧ,
Эмма ЛЕБЕДЗЬ,
Ганна МУРЗІЧ,
Маня ПАЛТАРЖЫЦКАЯ,
Сцяпан ПАЛТАРЖЫЦКІ,
Ліма РАФАЛОВІЧ і яшчэ адна
Ліма РАФАЛОВІЧ,
Амінея РЫЗВАНОВІЧ,
Айя СМОЛЬСКАЯ,
Аніфа СМОЛЬСКАЯ,
Ліля СМОЛЬСКАЯ,
Сцяпан СМОЛЬСКІ,
Алег ТАЛЬКОЎСКІ,
Алі ШАГІДЗЭВІЧ,
Ліма ШАГІДЗЭВІЧ,
Галя ШЧАНСНОВІЧ,
Мацей ШЧАНСНОВІЧ,
Мяр'ема ШЧАНСНОВІЧ,
Сцяпан ШЧАНСНОВІЧ,
Мяр'ема ЯКУБОЎСКАЯ,
Таня ЯКУБОЎСКАЯ
і іншыя, чыіх іменаў мы яшчэ не ведаем.

## МУСУЛЬМАНЕ З ІЎЯ

Барыс АБРАМОВІЧ,
Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ,
Барыс БАГДАНОВІЧ,
Хадзіджа БАГДАНОВІЧ,
Давід ПАЛТАРЖЫЦКІ,
Фаціма ПАЛТАРЖЫЦКАЯ,
Эльвіра РАДКЕВІЧ,
Роза РАФАЛОВІЧ,
Сулейман РАФАЛОВІЧ,
Халіма РЫЗВАНОВІЧ,
Фаціма ХАСЯНЕВІЧ,
Айша ШАБАНОВІЧ,
Ісмаіл ШАБАНОВІЧ,
Мустафа ШАБАНОВІЧ,
Фаціма ШАБАНОВІЧ,
Галіна ШЧУЦКАЯ,
Джаміль ЯСІНСКІ,
Марат ЯСІНСКІ,
Танаіля ЯСІНСКАЯ
і іншыя, чыіх імёнаў
мы яшчэ не ведаем.

Амія АЛЕКСАНДРОВІЧ - з БАРАНАВІЧ,
Аляксандр ЯКУБОЎСКІ - са СМІЛАВІЧ

## МУСУЛЬМАНЕ З МЕНСКА І НАВАКОЛЛЯ

Тамара АБРАГІМОВІЧ,
Ісмаіл ВАРАНОВІЧ,
Ібрагім КАНАПАЦКІ,
Алі КАНАРСКІ,
Алена ЛІСІЦКАЯ,
Аляксей ПАПОЎ,
Мустафа ПАЛТАРЖЫЦКІ,
Барыс РАДКЕВІЧ,
Ліля ТАЛЬКОЎСКАЯ,
Сабіна САБАЛЕЎСКАЯ,
Шахмінур САЙГАФАРАВА,
Анжаліка ТУСКРЭВА,
Сяргей ШУНКЕВІЧ,
Сямён ЯСІНСКІ,
Амір САІГАФАРАЎ

## ДРУГАЯ МІЖНАРОДНАЯ НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

19-20 мая у Мінску праходзіла міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі", прысвечаная 600-годдзю пасялення татар на землях Беларуска-Літоўскай дзяржавы (Вялікага княства Літоўскага). Яна была арганізавана Беларускім згуртаваннем татараў-мусульман "Аль-Кітаб" разам з Мусульманскім рэлігійным аб'яднаннем Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Акадэміяй Навук, Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў, Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", рэспубліканскім цэнтрам нацыянальных культур, сусветным кангрэсам татараў, Беларускім педагагічным універсітэтам і Беларускім універсітэтам культуры.

Гэта была ўжо другая міжнародная канферэнцыя, якая праводзіцца ў нашай рэспубліцы ў рамках 600-годдзя татарскага асадніцтва на землях Беларуска-Літоўскай дзяржавы, распачатага пры Вітаўце Вялікім. Пра першую канферэнцыю, што прайшла ў канцы сакавіка 1993 года, мы ўжо паведамлялі (гл. квартальнік "Байрам", 1993, №№ 1-2, с. 26-29).

У актавай зале Дома ветэранаў (г.Мінск, вул. Я.Купалы, 21) сабраліся вучоныя Беларусі, Літвы, Польшчы, Крыма, Татарстана, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Калінінграда, Венгрыі, Швейцарыі, ЗША, Турцыі, Егіпта, Нігерыі, прадстаўнікі пасольстваў замежных краін, грамадска-культурных аб'яднанняў Беларусі, дэлегацыя мусульманскіх абшчын з Беларусі, беларускія і замежныя студэнты.

З прывітальным словам да ўдзельнікаў канферэнцыі выступілі дырэктар Беларускага Інстытута навукі і мастацтва у ЗША Вітаўт Кіпель, пасол Турэцкай Рэспублікі ў Беларусі пан Тансу Акандан, намеснік старшыні сусветнага кангрэса татараў Таміна Бекцімірава, старшыня Беларускага згуртавання шляхты Анатоль Грыцкевіч, старшыня мусульманскага рэлігійнага саюза ў Польшчы Раман Сабалеўскі, старшыня Беларускага клуба "Спадчына" Анатоль Белы, прэзідэнт Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" Абу-Бекір Шабановіч, госці з розных рэгіёнаў Беларусі і іншых краін.

З вялікай цікавасцю былі заслуханы і абмеркаваны даклады прафесараў Х.Александровіча "На цярністым шляху да ведаў (на прыкладзе клецкіх татараў)", І.Абдулаева "Канфесійныя сувязі татар Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы з Таўрычаскім магаметанскім духоўным упраўленнем у сярэдзіне XIX стагоддзя", П.Сутэра (Цюрых) "Ці існаваў пераклад Кур'ана (тэфсір) на беларускую мову?", Э.Іофе "Да пытання пра ўдзел татараў у Вялікай Айчыннай вайне на тэрыторыі Беларусі", Л.Лыча "Беларуская нацыянальная ідэя ў творах С.Х.Александровіча", А.Гіруцкага "Імя творцы Сусвету як аснова светапогляду", М.Крамароўскага "Усходне-крымскі паясны набор першай палавіны XX стагоддзя", Л.Побаля "Беларусь і краіны Усходу: аналіз археалагічных знаходак на тэрыторыі Беларусі", кандыдатаў гістарычных навук С.Думіна "Культурна-моўная інтэграцыя татарскага насельніцтва зямель Вялікага княства Літоўскага", І.Канапацкага "Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі: стан і перспектывы", А.Смоліка "Асаблівасці ўтварэння татарскага шляхецкага саслоўя ў Вялікім Княстве Літоўскім", І.Канановіча "Крымскія паслы і ганцы ў Вялікім Княстве Літоўскім (1492-1501 гады)", В.У.Навіцкага, В.Грыгор'евай, А.Філатавай "Мусульманства сярод іншых канфесій на Беларусі (канец XVIII - пачатак XIX ст.), Ш.Бекцінеева "Татарскія манеты ў грашовым абарачэнні Вялікага Княства Літоўскага", Г.Александровіч-Мішкінене "Варажба татараў у культуры Вялікага Княства Літоўскага", кандыдатаў філалагічных навук У.Свяжынскага "Цюркскія і арабская мовы ў моўнай сітуацыі Вялікага Княства Літоўскага", В.Шура "Татарскі след у беларускай анамастыцы", журналістаў Я.Кіммеля "Этнакультурныя ўзаемасувязі татараў і яўрэяў", М.Багадзяжа "Гераічныя постаці беларускай і татарскай мінуўшчыны. Якуб Ясінскі", паэта Я.Гучка "Найбольш пашыраныя цюркізмы ў беларускай мове", сапраўднага члена геаграфічнага таварыства М.Маліноўскага "Цвярозасць - неад'емная рыса татараў-мусульман", галоўнага рэдактара квартальніка "Байрам" Я.Якубоўскага "Новае папаўненне слоўніка энцыклапедычнага даведніка "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы", аспірантКі Л.Леонавай "Уклад Смольскіх у развіццё беларускай музычнай культуры", студэнтаў А.Курылы "Смілавіцкія татары . Спроба сацыялагічнага даследавання", З.Канапацкага "Навагрудскія татары - удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны і іх сем'і - усяго 70 дакладаў і паведамленняў.

На другі дзень работы канферэнцыі на месцы разбуранага татарскага мізара (кладбішча) адбыўся мітынг і сімвалічная закладка мячэці. Удзельнікі канферэнцыі прынялі шэраг дакументаў: звароты "Да прэзідэнтаў Расійскай Федэрацыі і Чэчэнскай Рэспублікі", "Да прэзідэнта і Урада Рэспублікі Беларусь", Заяву "У Арганізацыю Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЭСКА)". У апошнім дакуменце гаворыцца: "У 1997 годзе татары Беларусі, Літвы і Польшчы будуць адзначаць своеасаблівы юбілей - 600-годдзе пасялення на землях Беларуска-Літоўскай дзяржавы. У сваёй гісторыі мы перажылі перыяды спаду і ўздыму, ганенняў і росквіту, многіх войнаў і нягод. Але народ выстаяў, выжыў, захаваў сваю веру, звычаі, традыцыі. У гады таталітарнага рэжыму, асабліва пасля Другой сусветнай вайны, на Беларусі былі разбураны амаль усе мечэці. Захавалася толькі адна дзейная мячэць у г.п. Іўе (Гродзенская вобл.). На мяжы знікнення мусульманская рэлігія на Беларусі, якая амаль 600 гадоў дапамагала татарам Беларусі захавацца як асобнаму этнасу. Такі стан беларускіх татараў ускладняецца тым, што і наша дзяржава, Рэспубліка Беларусь перажывае складаны пераходны перыяд эканамічнага развіцця і нічым не можа дапамагчы нам, татарам, у працэсе нашага адраджэння. Улічваючы складанасць нашага цяперашняга становішча і з мэтай захавання вельмі своеасаблівага этнасу ў геаграфічным цэнтры Еўропы канферэнцыя звяртаецца з просьбай у ЮНЭСКА аказаць магчымую матэрыяльную, гуманітарную і іншую дапамогу ў час, які яшчэ застаўся да 600-годдзя з тым, каб даць добры імпульс народу, які амаль знікае. Мы ўскладаем вялікія надзеі на ЮНЭСКА і ў тым, што будзе прыцягнута ўвага народаў свету да нашай праблемы і на дапамогу ў арганізацыі і ўдзеле у самім юбілеі". Наступную, юбілейную канферэнцыю па гісторыі і культуры татар нашага рэгіёна, мяркуецца правесці ў Мінску ў канцы 1997 года.

І.Канапацкі

"ДАЙ БОГ, КАБ КОЖНЫ БЕЛАРУС ТАК МОЦНА ЛЮБІЎ БЕЛАРУСЬ, ЯК ГЭТЫ ТАТАРЫН. ДАЙ БОГ!"

Яны жывуць побач з намі ў многіх населеных пунктах Беларусі. У Мінску і Гродне, у Навагрудку і Іўі, у Слоніме і Клецку, у Смілавічах і Беразіне... На Беларусі татары прадстаўлены асобай этнічнай групай, якая паводле перапісу 1989 года налічвала дванаццаць з паловай тысяч чалавек.

На тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага продкі беларускіх татар з'явіліся ў канцы XIУ стагоддзя. У выніку паспяховага паходу вялікага князя Вітаўта і хана Тахтамыша пад Азоў у 1397 годзе на Беларусі была паселена вялікая колькасць татар: каля Вільні, у Лідскім, Ашмянскім, Навагрудскім, Брэсцкім паветах. Яны атрымалі правы грамадзянства. Значная колькасць палонных пасялілася таксама ў наваколлі Клецка і ў Мінску, дзе яшчэ на пачатку XX стагоддзя існавала Татарская слабада (цяпер раён вуліцы Гвардзейскай).

Цікава, што большую частку беларускіх татар складалі ваеннаслужачыя (земяне), якія юрыдычна былі прыраўнаваны да шляхты. Так здарылася, што з другой паловы ХУП стагоддзя татарскія пасяленцы прымаюць беларускія прозвішчы, па якіх іх можна адрозніць ад волжскіх і крымскіх татар. Пастаянна жывучы сярод беларусаў і палякаў, яны страцілі сваю родную мову і пачалі карыстацца беларускай або польскай. Кітабы (свяшчэнныя кнігі) беларускіх татар пісаліся на беларускай мове арабскім пісьмом, аднак сваю рэлігію - іслам яны захавалі.

Беларускія татары ўнеслі значны ўклад у развіццё навукі і культуры Беларусі. Успомнім выдатнага беларускага вучонага ў галіне цеплафізікі, члена-карэспандэнта АНБ Бекіра Смольскага, літаратуразнаўцу, крытыка і празаіка, прафесара Сцяпана Александровіча, доктара хімічных навук, прафесара Хасена Александровіча, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Якуба Якубоўскага.

Апошнім часам усё большая колькасць жыхароў Рэспублікі Беларусь, асабліва моладзі, пачала ўсведамляць, што нельга аб'ектыўна і якасна вывучыць гісторыю і культуру беларускага народа без ведання гісторыі і культуры беларускіх татар. Менавіта гэтым, на мой погляд, і тлумачыцца даволі вялікая цікавасць, якую

праяўляе грамадскасць рэспублікі да выхаду трох частак кнігі "Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы" (Мінск, 1995). Праз некалькі тыдняў пасля выхаду гэта выданне ўжо стала бібліяграфічнай рэдкасцю.

Рэцэнзуемая кніга ўяўляе зборнік матэрыялаў першай міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы", якая праходзіла ў Мінску ў 1993 годзе, і раскрывае малавядомыя старонкі з гісторыі і культуры не толькі беларускіх татар, але наогул і з гісторыі беларускіх яўрэяў, беларускіх літоўцаў, беларускіх немцаў, беларускіх караімаў.

Я ўпэўнены, што значна пашыраць нашы веды аб гісторыі татар Беларусі грунтоўныя даследаванні А.Грыцкевіча "Фарміраванне татарскай народнасці на Беларусі", М.Ліліпенкі "Роля татараў у беларускім этнагенезе", С.Палуцкай " Татарская эміграцыя ў Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім і стаўленнікі Вітаўта ў Залатой Ардзе", С.Піваварчыка "З гісторыі паходжання татарскіх паселішчаў на Беларусі", В.Пазнякова "Татары Клецкага княства ХУІ ст."

Многія "белыя плямы" ў гісторыі беларускіх татар XX стагоддзя дапамогуць ліквідаваць артыкулы І.Карашчанкі "Нацыянальнае будаўніцтва сярод татар БССР у 1920-1930 гады", А.Міськевіча "Татарская меншасць у Польшчы ў 1918-1939 гг.", А.Кавалені "Да пытання аб удзелу татар у партызанскім руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны".

"Дай Бог, каб кожны беларус так моцна любіў Беларусь, як гэты татарын. Дай Бог!" - такую назву свайму артыкулу аб жыцці і дзейнасці Сцяпана Александровіча даў А.Бельскі. "Байрам" на Беларусі" - так азаглавіў сваю навуковую працу вядомы беларускі гісторык Леанід Лыч, які змястоўна аналізуе квартальнік Беларускага згуртавання татараў-мусульман "АЛЬ-КІТАБ". Арыгінальныя факты змешчаны ў даследаваннях А.Лакоткі "Мячэці Беларусі", І.Александровіча "Мізары - наша гісторыя і памяць", Л.Глагоўскай "Гасан Канапацкі".

Мяркую, што новае выданне дапаможа стварэнню энцыклапедычнага даведніка "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы", выхаду якога чакаюць не толькі беларускія татары, але і многія навукоўцы Беларусі.

Важна, што другая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя беларускіх татар, якая адбылася ў Мінску 19-20 мая гэтага года, была амаль цалкам прысвечана праблемам культуры і насіла назву "Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі". Яе ініцыятарамі былі Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Акадэмія навук, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Сусветны кангрэс татараў і іншыя ўплывовыя арганізацыі.

Добра, што правядзенне падобных канферэнцый ужо стала традыцыяй. Праз два гады ў Мінску адбудзецца трэцяя міжнародная навукова-практычная канферэнцыя. Яе правядзенне супадзе з 600-гадовым юбілеем татарскага асадніцтва на землях Беларуска-Літоўскай дзяржавы.

Эмануіл Іофе
"Народная газета", 31 мая 1995

Славуты беларускі грамадскі дзеяч і вучоны, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ( Нью-Ёрк ) Вітаўт Кіпель прыняў удзел у рабоце Другой міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі", прысвечанай 600-годдзю пасялення татараў на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы.

Наш госць, які нарадзіўся ў Менску, даўно знаёмы з татарамі, прыязна ставіцца да іх, аказвае маральную падтрымку і матэрыяльную дапамогу для выдання нашага квартальніка "Байрам". Па просьбе карэспандэнта спадар Вітаўт Кіпель для чытачоў квартальніка напісаў свае ўспаміны з мінулых гадоў. Ужо перад самым ад"ездам нашых гасцей мы даведаліся пра тое, што дзявочае прозвішча Зоры Кіпель — Радкевіч. Згодна за слоўнікам С.Дзядулевіча род Радкевічаў — адгалінаванне вядомага княжацкага татарскага роду Юшынскіх.

МЛЫН НА ТАТАРСКАЙ СЛАБАДЗЕ У МЕНСКУ

Гаворка пойдзе пра ўспаміны з гадоў 2-й Сусьветнай вайны. Праўда, гэтыя ўспаміны іншыя ад тых мільёнаў старонак, што былі надрукаваныя за мінулае пяцідзесяцігодзьдзе. Тут няма нічога ні геройскага, ні вялікага ўздыму... звычайныя шэрыя будні, але з прыемным адценьнем.

Нашая сям'я вярнулася ў Менск пасьля панад 10-і гадовае высылкі паза межы Беларусі пад рубрыкай "бежанцаў" у чэрвені 1942 году. Менск, горад дзе я нарадзіўся пятнаццаць год таму, быў амаль увесь спалены, разбураны. Жыць у Менску было ня лёгка і старажылам, але нам зь біркай "бежанцы-павяртанцы" дык было і вельмі цяжка. Пакуль мы "дастукаліся" нейкіх харчовых картак, ды пакуль я спасцярог як на Камароўскім рынку "утаргаваць" на бохан хлеба, адзіным харчовым паратункам былі "паходы" маці ў "Западную", дзе ўдавалася за "лахі" вымяняць і сала і бульбы і жыта. Відавочна, што калі гэтыя, літаральна, бясцэнныя прадукты дастаўляліся ў Менск, то з салам і бульбай клопату ня было, а вось жыта трэба было змалоць. У горадзе-ж, як напачатку здавалася, працаваў толькі адзін млын, далекавата за Чэрвенскім рынкам. Прыходзілася туды вазіць жыта ці то на змайстраваным возіку ці на санках. Было гэта працаёмка й нявыгодна, далёка. Мы жылі тады на вул. Берасьцянскай, каля Вайсковых могілкаў. Ды і бралі ў тым млыне парадачна за памол, здаецца адну чацьвёртую. І вось нехта з суседзяў падказаў нам, што на Татарскай Слабадзе ёсьць яшчэ адзін млын, праўда маленькі, але выгодны з цаной. Адразу-ж я аднаго дня прост са школы /школа была на вул.Багдановіча, дзе цяпер будыначак Музэю Прыроды/ я пайшоў на Слабаду. Млын быў паблізу мячэці. Уласьнік млыну быў менскі татарын, чалавек малагаваркі, красамоўна беларускамоўны ды вельмі дзелавы. Ён спытаў, колькі мы будзем прыносіць жыта, сказаў, у якія дні млын адчынены, ды даў сваю цану за памол - наколькі памяць - адну шостую. За гэткую цану мы павезьлі-б малоць і ноччу! І гэтак мы сталі малоць "нашае" жыта ў Татарскай Слабадзе, пакуль маці не перастала хадзіць у "Западную", бо партызаны па дарозе пачалі адбіраць усе прадукты. Памятаю таксама, што і каля мячэці і каля млыну бывала ладна народу - былі там і менскія і "заходнікі" /іх пазнавалі па кажушках!/ і жыцьцё неяк байчыла-рухалася.

Вітаўт Кіпель

## ДЛЯ НАС ВАЙНА ПАЧАЛАСЯ Ў ВЕРАСНІ 1939 ГОДА

Для маладых і ўжо не вельмі маладых людзей, калі гаворка ідзе пра вайну, успамінаюцца лічбы 1941 і пасля працяжніка - 1945. Для старых людзей, асабліва тых, хто да 1939 г. жыў у Польшчы, вайна пачалася значна раней, ды і наступствы яе цягнуліся намнога больш час. Я хачу крыху расказаць пра свайго стрыечнага брата - Мустафу Абрамовіча. Ён паходзіць з добрай татарскай сям'і, якая да 1939 г. жыла ў Клецку ў Татарскім завулку. Бацька - Ібрагім Зекіравіч, маці - Фурша Аляксандраўна з Александровічаў, мая родная цётка. У гэтай сям'і былі дзеці - Ева (н. 1913), Мустафа (н. 1916), Барыс (н. 1917), Алей (н. 1921), Зейнаб (н. 1923), Хасень (н. 1925). Сям'я была дружная, вельмі працавітая. У іх было толькі 3 га зямлі, дык прыходзілася займацца і гарбарствам.

У 1937 і 1938 гадах Мустафа і Барыс дасягнулі прызыўнога ўзросту і трэба было ісці ў войска. Татары былі законапаслухмянымі і пайшлі на службу. Лічылася, што калі татарын не служыў у войску, дык у яго нейкая вада (недахоп, або як казалі, фэлер) і аўтарытэтам такі чалавек не карыстаўся. Чытачы "Байрама" ведаюць, што ў 1936 г. у польскім войску, каля Вільні (у Новай Вілейцы) знаходзіўся татарскі эскадрон у складзе 13-га палка Віленскіх уланаў. Польскія татары ахвотна служылі ў гэтым эскадроне. У іх быў свой бунчук, адметная вопратка, у мусульманскія святы да іх прыязджаў з Вільні імам і высокія госці з Варшавы. Асабліва былі задаволены тым, што ёсць татарскі эскадрон бацькі уланаў, бо тут іх сыноў кармілі мусульманскімі стравамі, без свінога сала і мяса.

Пра службу татар у гэтым эскадроне пісалі польскія мусульманскія часопісы, пра адвагу і ўмельства ў вайне з немцамі ў 1939 г. напісана ў многіх кнігах.

І вось 1 верасня пачалася Другая сусветная вайна. Пасля, 17 верасня, польскую граніцу перайшла Чырвоная Армія. Нешматлікая, недастаткова ўзброеная польская армія не магла доўга супрацідзьяцца немцам (многія ведаюць, што крыху пазней шматлікая і добра ўзброеная Чырвоная Армія першыя месяцы не магла эфектыўна супрацьстаяць немцам). Тыя вайсковыя часці, якія знаходзіліся на

Віленшчыне, у Заходніх абласцях сучаснай Беларусі і Украіны фактычна не ваявалі з Чырвонай Арміяй, яны склалі зброю і паводле міжнароднага права не лічыліся ваеннапалоннымі, а інтэрніраванымі. Радавыя польскія жаўнеры, у тым ліку і уланы, разлічвалі, што тых людзей, якія былі родам з Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны Савецкія ўлады адпусцяць дадому. Вядомы выпадкі, што там-сям праз месяц-другі так і адбылося, але гэта былі толькі выпадкі. Афіцэраў (іх пасля ў 1939 і 1940 гадах расстралялі ў Катыні) і малодшы камандны састаў затрымалі. Затрымалі ўсіх тых, хто ў гэты час адбываў чынную службу. Інтэрніраваных польскіх вайскоўцаў пад узмоцненай аховай пагрузілі ў таварнякі, павезлі на "Большую родину".

Найбольш смелыя спрабавалі збегчы, сярод іх быў і Барыс Абрамовіч, які выскачыў з вагона і хаваючыся, па лясных дарогах дайшоў да сваіх родных у Клецк. Мустафа не спрабаваў уцякаць і апынуўся ў цэнтральнай Расіі. Усе яны, па расказах Мустафы, было 180 тыс. салдат і больш за 10 тыс. афіцэраў, апынуліся ў лагерах. Тут яны праходзілі сарціроўку (па словах лагернай адміністрацыі - "просеивание на ситечке"), пасля чаго афіцэры былі вывезены ў Казельскі, Асташкаўскі і Старабельскі лагеры, адкуль яны трапілі ў Катынь пад Смаленскам, у Харкаў, у Калінінскую (цяпер Цвярскую) вобласць, дзе і былі расстраляны чэкістамі.

Значная частка радавых палонных (каля 15 тыс. чалавек), куды трапіў і Мустафа, была саслана ў руднікі і вугальныя шахты Крыварожжа і Днепрапятроўшчыны. Паслалі іх туды для "отмывания" от грязного капиталистического прошлого и трудового воспитания перед вступлением в "новое прогрессивное социалистическое общество". Гэта былі жахлівыя часы: ноччу ў зімных бараках на 3-павярховых нарах, вялікія нормы выпрацоўкі, 10-гадзінны працоўны дзень, абразы ахоўнікаў і іншыя "прелести" лагернага жыцця. З гэтых мясцін прыйшоў першы і апошні ліст Мустафы ў Клецк і бацькі даведаліся аб тым, што ён жывы. Маці яго Фурша разам з усёй сям'ёй пачалі складаць ліст і паслалі яго не каму-небудзь, а асабіста "Дорогому и любимому вождю всех народов Товарищу Сталину". Але вынікаў не было.

Мустафа працаваў так да сярэдзіны 1942 года, калі на тэрыторыі СССР пачалі з польскіх палонных ствараць армію, якую ўзначаліў генерал Андэрс. Мустафа быў залічаны ў гэтую армію і рыхта-

ваўся ўступіць у бой з немцамі. Але неўзабаве адбыўся канфлікт паміж Сталіным і генералам Андэрсам, які патрабаваў у Сталіна выпусціць з лагераў былых польскіх афіцэраў для арганізацыі польскай арміі, але яны (афіцэры) ўжо даўно былі расстраляны і выканаць патрабаванне генерала Андэрса Сталін не мог. Таму без афіцэраў польская армія накіравалася ў Іран, затым у Паўночнай Афрыцы прымала ўдзел у баях з нямецкай арміяй Ромеля, а затым у Італіі ў складзе арміі заходніх нашых саюзнікаў.

Тут у Італіі ў канцы вайны Мустафа Абрамовіч сустрэўся з татаркай са Слоніма. Яны пабраліся, а пасля завяршэння вайны пераехалі ў Манчэстэр у Вялікабрытаніі, дзе пабудавалі дом, нарадзілі і выгадавалі двух дачок, выдалі іх замуж за мусульман і жывуць заможна.

Мустафа і яго жонка не забываюць радзіму, прыязджалі некалькі разоў. Першы раз пасля доўгай разлукі (з 1937 г.) ён быў у Клецку ў верасні-кастрычніку 1971 г. Бацька яго Ібрагім Бекіравіч не дачакаўся сына (памёр бацька за 8 месяцаў да прыезду Мустафы), а маці яшчэ ўбачыла сына, але ўжо ў другі прыезд у 1975 г. ён маці не ўбачыў, бо памерла яна ў кастрычніку 1974 года. Мустафа наведаў Клецк, дзе жывуць Алей і Хасень з дзецьмі і ўнукамі (брат Мустафы Барыс памёр у 1993 годзе), быў у сястры Зейнаб ва Уздзе, дзе яна жыве з сям'ёю, быў у стрыечных братоў у Менску. Мустафа часта падарожнічае, быў у ЗША, Польшчы, у Маскве. Падарожжа - модны занятак для замежных пенсіянераў. У час апошняй нашай сустрэчы з братамі я запытаў у яго, колькі яму каштуе гэта падарожжа. Аўтобусам Лондан - Францыя - Нідэрланды - Германія - Польшча - Беларусь - Масква і назад у Лондан - толькі 200 фунтаў стэрлінгаў. Месячная пенсія ў яго, пенсіянера, 200 фунтаў стэрлінгаў. Пасля гэтага я і падумаў, а куды і як часта магу паехаць на сваю прафесарскую пенсію?

І вось на схілку свайго веку (Мустафа набліжаецца да свайго 80-годдзя) яму захацелася пабудаваць свой дом на сваёй зямлі на Радзіме, у Клецку, дзе ён нарадзіўся і жыў у маладосці. І гэта ён выканаў, укладваючы ў будаўніцтва свае сродкі. З выгляду і па дыхтоўнасці (дабротнасці), прыгажосці гэты дом адрозніваецца ад іншых. Цалкам будынак не завершаны, але матэрыялы нарыхтаваны. Засталося апошняе - афарміць будынак на сваё імя. Пакуль што бюракраты працуюць. А яму гэта незразумела, як жа на сваёй зямлі і за свае сродкі можна забараніць чалаве-

ку мець свой дом.

Пажадаем Мустафе Ібрагімавічу завяршыць будаўніцтва свайго дома. Няхай жа Аллаг дапаможа яму ў яго добрых справах.

Вось на гэтым і скончу свой ліст пра добрага беларускага татарына-мусульманіна, майго стрыечнага брата, які прайшоў цяжкія выпрабаванні ў жыцці і застаецца аптымістам.

Х.Александровіч

## ТАТАРЫ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ

(З кнігі "Живописная Россия", Т. 3, ч. I-2, 1882. А.Г.Кіркор. Літоўскае і Беларускае Палессе)

Татары пераселены на Літву Вялікім князем Вітаўтам у 1395 і 1398 г. з ліку тых, хто трапіў у палон пад Азовам. Разам з татарамі ён перасяліў з Крыма каля 400 сямей караімаў. Пасяленым у Літве татарам ён даў правы грамадзянства, поўную волю ў веравызнанні і ўтварыў паселішчы на Лукішках (цяпер у межах горада Вільнюса - заўвага рэд.), у Сорак Татарах (цяпер вёска Кятурасдэшымт Татору, Вайдоту апілінка Вільнюскага раёна - заўвага рэд.), на берагах р. Вакі, у Немежы, а таксама ў паветах Лідскім, Трокскім, Ашмянскім, Навагрудскім, Брэсцкім, на Валыні і ў сучаснай Сувалкскай губерні. Надзяліўшы іх зямлёй і рознымі прывілеямі, Вітаўт прыдбаў сабе верных падданых. Ваяўнічае гэтае племя да гэтага часу вызнае магаметанскую веру і пастаянна вылучаецца паслухмянасцю законным уладам. Усе Гаспадары Літвы падтрымлівалі нададзеныя татарам Вітаўтам прывілеі; Кацярына II у 1794 г., між іншым, пісала генерал-губернатару князю Мікалаю Васілевічу Рапніну: "не пакінь без сваей апекі паселеных у Літоўскіх абласцях татар".

Большая частка татар служыла ў палках Літоўскага корпуса. У шэрагах рускага воінства не раз адзначаліся літоўскія татары. Паселішчы іх і цяпер населены адстаўнымі вайскоўцамі, з якіх многія ў вышэйшых чынах і ўзнагароджаны ордэнамі. У апошні час

мнoгія татары сталі служыць у цывільнай службе.

Татары ўсе да гэтых пор карыстаюцца правамі дваранства. Цікава, што хоць яны і захавалі ўсходні тып, хоць і цяпер застаюцца вернымі закону Магамета, але зусім забылі па-татарску, так што Алькур'ан і іншыя малітоўныя кнігі пераклалі на польскую (на беларускую - заўвага рэд.) мову. Нарэшце трэба яшчэ адзначыць, што татары заўсёды карысталіся павагай за свае шляхетныя якасці, праўдзівасць і адкрытасць. Калі былі выключэнні, то рэдка, і то толькі ў апошнія часы. Памяць пра Вітаўта, як свайго апекуна, шануюць да гэтага часу. Татары і ў апошні час памінаюць яго імя ў сваіх малітвах. Вітаўта яны называюць словам Ватад - моцны, ласкавы, апякун.

---

Даследчыкі жыцця і навуковых прац А.Г.Кіркора адзначаюць, што ён паходзіць з татараў - шляхты. Глядзіце пра яго артыкул у гэтым нумары "Байрама" у раздзеле "Пробныя артыкулы для энцыклапедычнага даведніка "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы".

---

З КНІГІ С.У.СУСЛАВАЙ
ЖАНОЧЫЯ ЎПРЫГОЖАННІ КАЗАНСКІХ ТАТАР СЯРЭДЗІНЫ
XIX — пачатку XX ст.



В течении уже более 25 лет автор этих строк занимается историей и генеалогией литовско-татарских дворянских родов. Некоторые родословные практически завершены, некоторые требуют дополнения и уточнения. В будущем эти материалы должны стать основой для нового "Гербовника татарских семей в Польше" (способного заменить опубликованный в 1929 г. гербовник Станислава Дзядулевича, где родословные татарских семей представлены, к сожалению, с многочисленными ошибками, а зачастую просто легендарны). Но эта работа потребует еще много лет напряженного труда, поэтому мы сочли возможным начать публикацию отдельных очерков и просто семейных материалов, представляющих порой значительный интерес.

## I ВОРОНОВИЧ герба ЛИС

Из дела о дворянстве НАРБ. ф. 319. Оп. 2. Д. 527

Род татар Вороновичей доказал дворянство в Минской губернии с гербом Лис (определения Минского дворянского собрания 3.02.1820, 24.02.1825; в 1832 г. к тому же роду были сопричислены некоторые вновь рожденные лица; герб Лис семья приняла по образцу литовских однофамильцев-католиков). Родоначальником семьи назван Михал (вероятно, Мухарем) Воронович, хорунжий литовских войск, упоминаемый в универсале гетмана Михала Сервация Корибута Вишневецкого 1.12.1700 г. татарам Минского воеводства с распоряжением явиться на посполитое рушение. 1.11.1716г. получил от гетмана польного литовского Михаила Радзивилла увольнение от службы и охранный лист на имение Тупалы, с освобождением его от постоев войск. Сыновьями Михала от брака с Евой Яблонской, согласно метрикам из Осмоловской мечети, были Александр(р.1721), Ассан (р. 1727)и Шабан (р. 1730); их потомство проживало в начале XIX в. и позже преимущественно в Ляховичах, а отдельные ветви также в Клецке, Минске; младший сын Шабана Сулейман (р. 1780) был капитаном Смоленского драгунского полка русской армии. На русской военной службе в Литовско-Татарском, а затем Татарском

уланском полку находился и его двоюродный брат Стефан (Степан)-Мустафа Александрович Воронович (р. 1777); ниже мы публикуем представленный им в дворянское собрание и сохраненный в копии [Там же. Лл. 15-15 об.] указ об отставке, служивший удостоверением личности. Этот документ интересен перечислением сражений, в которых участвовал Воронович вместе с другими литовскими татарами, служившими в данном полку.

"По указу Его Величества Государя Императора Александра Павловича Самодержца Всероссийского и прочая и прочая и прочая.

Предъявитель сего служивший в Татарском уланском полку юнкером Степан Александров сын Ворон [так!] из татар дворянин в службу Его Императорского Величества вступил товарищем 1797 Августа 1-го в Литовско-Татарский полк, а по разделении онаго на два поступил в Конно-Татарский (что ныне Уланский) полк 1803 Мая 30, чинами происходил унтер-офицером 803-го Апреля 16, юнкером 809 годов Сентября 1-го числ, в продолжении каковой службы в походах 1799 Мая с 13-го в Римской Империи противу французов и в действительном с оными сражении, того ж года Сентября 14-го под деревнею Шлятт [в Швейцарии - С.Д.] , а в 1805 с 5 Сентября по 23-е число Октября в оной Империи, равно 1806 с 18 Октября в Прусском Королевстве противу французов и в действительных сражениях Декабря 13 и 14-го под городом Пултуском 1807 февраля 18 при взятии местечка Алленштейна [совр. Ольштын - С.Д.] и 1809 годов июня с 8-го по 5-е число Декабря за границею в Галиции противу Австрии и того ж года Июня 16 при занятии города Лемберга [Львова - С.Д.] , в домовых отпусках не бывал, вел себя добропорядочно и все препоручения исполнял с усердием и точностию и ни в каких пороках в продолжении его службы замечен не был. А ныне по Высочайшему Его Императорского Величества приказу в 13 день Ноября 1811 года отданному за болезнию от воинской службы з награждением чином 14 класса (*) уволен в разныя Российской Империи города, где жить пожелает. Во уверение чего до получения из Государственной Военной Коллегии настоящего об отставке паспорта дан сей ему Ворону от Татарского уланского полка за подписанием и с приложением полковой печати. Штаб-квартира Киевской губернии города Махновка

Генваря 15-го дня 1812 года.

На подлинном написано Его Императорского Величества Всемилостивейшего Государя моего от кавалерии полковник, 17 кавалерийской бригады и Татарского уланского Полка командир и орденов С[вято]го великомученика и победоносца Георгия 4-го класса, С[вяты]я Анны 3-й степени, С[вято]го Иоанна Иерусалимского и королевско-прусского Пур-ле-мерит фон КНОРРИНГ (М.П.). Полковой адьютант поручик Романин".

---

(ж) чин 14-го класса соответствовал чину хорунжего или прапорщика на военной службе и коллежского регистратора на гражданской; в списках семьи он именуется то коллежским регистратором, то корнетом в отставке; вместе с братьями жил в Ляховичах; был женат на Фурше (Уршуле) Богданович и оставил потомство [Там же].

Желательно печатать этот текст по-русски, т.к. это документ. При публикации сохранена орфография оригинала, в том числе и сокращенный вариант фамилии Мустафы-Стефана Вороновича

С.В.Думин

Рэдакцыя квартальнiка "Байрам" просiць прабачэння ў аўтараў энцыклапедычных артыкулаў

Так здарылася, што ў першым нумары квартальнiка "Байрам" за 1995 год мы не назвалi прозвiшчы аўтараў артыкулаў, надрукаваных на 68-90 старонках. Вельмi просiм даследчыкаў, iх родных i блiзкiх не вельмi доўга гневацца на нас, вiнаватых. Аўтары публiкацый: АЗУЛЕВIЧ Якуб - С.Крычыньскi, АХМАТОВIЧ Мустафа i АХМАТОВIЧ Мустафа Мурза - С.Крычыньскi, БЕЛАЯ АРДА - Н.Мiнгулаў, КАТЫНЬ - з польскiх даведнiкаў, КЕНСКIЯ - С.Думiн, МАРДЖАНI МЯЧЭЦЬ - Н.Халiтаў, МАРДЖАНI - Р.Мухаметдзiнаў, НЕКРА-

ШУНСКАЯ ДЖАМІЯ - С.Крычыньскі, ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА (пра лёс татараў у гэтай вайне) - А.Міськевіч, ПЕРШЫ ЎСЕПОЛЬСКІ МУСУЛЬМАНСКІ З'ЕЗД - А.Міськевіч, САБЕІ - М.Піятроўскі, ХУДЗЯКОЎ - М.Усманаў, ЧУВАШСКАЯ МОВА - Л.Лявіцкая, ЧУВАШЫ - Т.Гузянкова, В.Іваноў. Іншыя энцыклапедычныя даведкі напісаны нашымі карэспандэнтамі, ці запазычаны з іншых даведнікаў.

## ГЕНЕРАЛ-ЛЕЙТЭНАНТ ЯКУБ ЮЗЕФОВІЧ

Якуб Юзефовіч нарадзіўся ў 1872 г. у сям'і вайскоўца. Яго бацька Давыд быў генерал-маёрам расійскай арміі, маці Марыя (Мар'ема) з Кандауравых (род паходзіць з Дагестана). Яны мелі маёнткі ў Ваўкавыскім павеце, а дзед Якуба - Амурат, меў маёнтак Лебедзі пад Аўгустовам. Сям'я Давыда Юзефовіча была вялікая і Якуб меў многа радні: брат Міхал - паручык, загінуў у Руска-японскую вайну, брат Ях'я памёр у 1921 г., брат Мацей, сястра Ганна была замужам за палкоўнікам Рэзанавым, сястра Алена мела мужа - палкоўніка Тамерлана Крычынскага, сястра Зофія была замужам за капітанам Спірыдонавым, былі яшчэ сёстры Вольга і Яўгенія - жонка генерал-маёра рускай арміі Юзефа (Юсуфа) Якубоўскага.

Якуб Юзефовіч служыў у генеральным штабе Расійскай арміі, аб ім вельмі хораша гаварыў рускі цар. У час Першай сусветнай вайны Якуб Юзефовіч камандаваў "Дзікай дывізіяй", якая складалася з горцаў - чэчэнцаў, якіх як і казакаў пасылалі на фронт на самыя небяспечныя ўчасткі. За вайсковае ўмельства і асабістую адвагу Якуб Юзефовіч быў узнагароджаны шматлікімі ордэнамі, у тым ліку зоркай *Virtuti Militari*. Спадзяюся, што гісторыкі-даследчыкі знойдуць поўныя звесткі пра славутага татарына-мусульманіна, каб надрукаваць пра яго артыкул у энцыклапедычным даведніку "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы".

А.Крыніцкі

# СЯБРА БЕЛАРУСКІХ ТАТАРАЎ ЖЫВЕ Ў БАРАНАВІЧАХ

У ліпені Міхасю Міхайлавічу Маліноўскаму споўніцца 50 год. Гэта выдатны даследчык і таленавіты журналіст, які так хораша піша пра прыроду і славутых людзей сваей Бацькаўшчыны - Беларусі. Яго прозвішча ведаюць многія беларускія татары. Добры беларус - заўсёды сябар і іншых народаў, якія тут жывуць спрадвеку, абы яны былі б толькі добрымі грамадзянамі гэтай краіны. Я хачу крыху расказаць пра Міхася, аб чым даведаўся, размаўляючы з ім і яго сябрамі.

У "Народнай газеце", у "ЛіМ"е я звярнуў увагу на цікавыя публікацыі, падпісаныя сапраўдным членам геаграфічнага таварыства М.Маліноўскім. У нас, на Беларусі, большасць членаў геаграфічнага таварыства не вельмі ганарацца гэтым званнем, цэняць яго на ўзроўні членства ў арганізацыі па ахове прыроды, або чырвонага крыжа і чырвонага паўмесяца. Міхась Маліноўскі быў прыняты ў кагорту географаў у Кяхце, што знаходзіцца ў Бураціі. Там, каб цябе прынялі ў геаграфічнае таварыства, трэба напісаць і апублікаваць навуковую працу па геаграфіі і не ніжэй па навуковасці, чым дыпломная праца выпускніка геаграфічнага факультэта. Да рэвалюцыі геаграфічнае таварыства Расіі ўзначальваў сам цар, а ўсю работу па кіраўніцтву гэтым паважаным таварыствам ажыццяўляў Пётр Пятровіч Сямёнаў-Цян-Шанскі.

Пасля таго, як у часопісе "Беларуская думка", № 7 за 1993 г. быў надрукаваны артыкул "Салям -Алейкум! Мір вам..." я паехаў у Баранавічы і там у нас адбылася вельмі цікавая для мяне размова. Я распытаў у Міхася аб тым, дзе ён нарадзіўся, як стаў журналістам. Жыццё ў яго было не лёгкае, бо выхоўваўся і вучыўся ён у дзіцячым доме, а як падрос - у школе-інтэрнаце. Затым служба ў войску, вучоба ў афіцэрскім вучылішчы, вучоба ў вышэйшай прафесійнай навучальнай установе, дзе ён адшліфаваў свой талент журналіста. З 1964 па 1991 год аддаў ён вайсковай службе. Прыйшлося паслужыць у Забайкаллі, на Далёкім Усходзе, у Прыўраллі, а завяршыў службу на Беларусі.

За гады службы, акрамя асноўных абавязкаў афіцэра, ён напісаў і апублікаваў больш за тысячу артыкулаў, у тым ліку ў такіх выданнях, як "Наука и жизнь", газеце "Известия", "Работніца і

сялянка", "Гаспадыня" і іншых.

Міхась Міхайлавіч знайшоў многае і вельмі цікавае пра тых людзей, пра якіх і мы быццам бы нешта ведаем, але аказваецца, што ёсць шмат яшчэ няведамага нам. Нашы суседзі з захаду і ўсходу прыўласцілі сабе таленавітых пісьменнікаў, вынаходнікаў, вучоных, афіцэраў, абвясціўшы іх сваімі, а яшчэ горш таго, што мы і самі ў гэта паверылі. Але рана ці позна знойдзецца чалавек, такі як Міхась Маліноўскі, які пасля доўгіх пошукаў знойдзе праўду, доказна і яскрава давядзе да беларускага чытача. Не цураецца Міхась і не вельмі ўдзячнай працы. Ён узяўся і даказаў, што вясковец-каваль, хоць і таленавіты, але не быў паэтам, а жыццё яго не было такім трагічным, як аб гэтым пісалі многія і многія славутыя даследчыкі. Знаў ён крыху пазалоту і з пана-кампазітара, паказаў тое, што замоўчвалася - жорсткая пастава да прыгонных сялян-беларусаў. Добра было б, каб нарысы Міхася пра беларускіх сыноў надрукаваць у асобнай кніжцы, у якой, не вызначаючы катэгарычна, што гэта ісціна ў апошняй інстанцыі, паказаць матывы і паводзіны славутых людзей. Часам М.Маліноўскі бывае занадта прыдзірлівы, нават да такога пытання, чаму чалавек называў сябе не так, як запісана ў метрычнай кнізе, чаму хавае нацыянальнасць сваёй радні, а значыць і сваю. Але не гэта галоўнае ў пошуках і знаходках нашага даследчыка-журналіста.

Міхась нямала зрабіў як журналіст для пашырэння ведаў чытачоў пра цыганоў, габрэяў. А пра тое, як ён пачынаў тэму пра татараў, трэба расказаць асобна. Будучы ў Бураціі, ён пазнаёміўся і завязаў сяброўскія адносіны з адной татарскай сям'ёй. На наша шчасце татары гэтыя аказаліся шчырымі, прыстойнымі людзьмі. Наш Міхась згадаў, што на Беларусі таксама здаўна жывуць татары. Знаёмства з публікацыямі пра татараў, у тым ліку пра даволі славутых людзей Беларусі, якія былі татарскага паходжання, а затым асабістае знаёмства з беларускімі татарамі падштурхнула яго даследчыцкую і журналісцкую натуру заняцца гэтай тэмай глыбока і на доўгі час. У выніку гэтага напісана і надрукавана некалькі ягоных артыкулаў, арганізацыя вечара ў Баранавічах, прысвечанага 600-годдзю татарскага асадніцтва на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы. Ён знайшоў добрых людзей сярод бібліятэкараў - лоцманаў у кніжным моры, якія наладзілі вельмі цікавую выставу друкаваных прац пра татараў, далі памяткаванне для правядзення ве-

чарыны. Міхась прыцягнуў для правядзення гэтай імпрэзы паэтаў і музыкаў, якія так добра аздобілі гэтую сустрэчу беларуса з татарамі. Вельмі добрае ўражанне на ўдзельнікаў святкавання 5-годдзя дзейнасці "Аль-Кітаба" у Беларусі зрабіла прамова шчырага беларуса - Міхася Маліноўскага. Вельмі добра аргументаваны быў даклад Міхася на другой сусветнай канферэнцыі, які ён прачытаў аб цвярозасці мусульман у мінулыя часы, пра астаткі традыцыі цвярозасці, якія яшчэ і сёння захоўваюцца некаторымі татарамі. Даклад будзе надрукаваны ў матэрыялах канферэнцыі.

Жадаем добраму беларусу - сябру беларускіх татараў - плённай працы і добрага здароўя! Татарскі рахмат (дзякуй) табе, Міхась Міхайлавіч Маліноўскі, за твае добрыя намеры і здзяйсненне іх у жыцці.

## ШАНУЙ ГАСЦЯ !

( Беларусь — Лондан — Цюрых — Менск )

Некалькі радкоў з ліста нашага сябра са Швейцарыі П.Сутэра:
" З Аль-Кітаба, які знаходзіцца у Брытанскім Музеі ў Лондане я выпісаў лацінкай вельмі цікавыя радкі пра тое, як татарын-мусульманін павінен ставіцца да гасця, нават калі госць не мусульманскай веры. Спадзяюся, што кожны беларускі татарын прачытае і зразумее тэкст, хоць большасць маладых людзей чытае беларускі тэкст, які пішуць кірыліцай."

(fol.038b) (13) bab [wa-bnu s-sabīli] a sīnu (14) padarôžnamu bûdz rad! bûdz rad hašcu û damu swajômi rad bûdz jehô widzec! šanûj! [man] (15) [kāna yu'minu bi-llāhi wa-l-yawmi l-āḫiri fa-l-yukarrim ḍayfan] chtô bi mew û dôme swajôm hôšca (16) rad widec šanôwaw panbôh takôwich lûdzej 'u-raji u lasce swajej bôžej rad jim (17) bûdze; rad bûdze jich widzec i jich šanôwac [akrimi ḍ-ḍayfa wa-law kāna kāfiran] šanûj hôšca chôcbi (18) biw k'afirin!

З сардэчным прывітаннем

Paul Suter

ДА ПЫТАННЯ ПРА ЛАНДШАФТНА-ПЛАНІРОВАЧНУЮ СТРУКТУРУ ЗАБУДОВЫ ТАТАРСКАЙ СЛАБАДЫ У г. МЕНСКУ кан. XIX — пач.XX ст.

Фарміраванне татарскага прадмесця у г. Менску сваімі вытокамі узыходзіць да пачатку ХУІ ст. У 1506 годзе пад Клецкам адбылася бітва з татарскімі крымчакамі у якой князь Глінскі атрымау перамогу. Частка палонных татарау пасля бітвы была расселена у г. Менску, у раёне вуліц Ракаускай і так званага Пятніцкага канца. Так пачала фарміравацца менская татарская Слабада. Раён вуліцы Ракаускай, — тэрыторыя развіцця найбольш старажытнай урбаністычнай інфраструктуры горада. Гэта адно з прадмесцяу акольнага горада, які суседнічау з умацаваным дзядзінцам X — XII стст. К ХУІ ст. тут яшчэ захоуваліся рэшткі драуляных крапасных умацаванняу. Назвы і арыентацыя вуліц захавалі старажытную тапаграфію планіроукі, грунтуючыся на повязі: град — пасад. Вуліцы Замкавая, Завальная, паводле картаграфічных матэрыялау ХУШ і XIX стст. акрэслілі межы старадауніх умацаваных тэрыторый і напрамкі радыяльных канцоу града ( вул. Ракауская і Пятніцкі канец ).

Структура уласна Татарскай Слабады пачала вызначацца фарміраваннем асноуных вуліц: Вялікай і Малой Татарскіх. Фарміраванне гэта ішло у даволі складанай горадабудаунічай сітуацыі. У ХУП — ХУШ стст. на тэрыторыі Ракаускага прадмесця вызначаецца буйны зямельны уласнік: Кацярынінская царква. У ХУШ — пачатку XIX стст. вакол яе фарміруецца структура вуліц, забудаваных мураванымі і драуляна-мураванымі будынкамі, у асноуным на вуліцах Ракаускай, Уваскрасенскай, Няміга-Ракаускай, Замкавай. Забудову утваралі даходныя дамы, якія належалі царкве і буйным домауладальнікам. Гістарычна асеушае тут гандлёва-рамесніцкае насельніцтва адціскаецца у пауночна-усходнім напрамку. Тут, бліжэй да Свіслачы, у XIX ст. фарміруецца традыцыйна-гістарычная драуляная забудова вуліц Вялікай Татарскай, Тарасаускай, Заслаускай, Глухой, Малой Татарскай.

Картаграфічны матэрыял XIX ст. сведчыць, што структура пазначаных тэрыторый мела выразную квартальную планіроуку, што з"ялялася сведчаннем уключэння нават тэрыторыі драуляной забудовы у сістэму горадабудаунічых пераутварэнняу, вызначаных шматлікімі Генеральнымі планамі. Грамадскае кіраванне менскай гарадской управы у адпаведнасці з нормамі Будаунічага Статуту і Гарадавога Палажэння

праз землямерау менскай чарцёжні, вызначалі межы кварталау. Апошнія у сваю чаргу драбіліся на зямельныя надзелы ( пляцы ). Яны уяулялі сабою, як правіла, вузкія палосы. У адпаведнасці з існуючымі будаунічымі, супрацьпажарнымі і санітарнымі нормамі забудова фарміравалася уздоуж вуліц, з вытрымкай адпаведных супрацьпажарных разрывау паміж будынкамі пляцау у дзесяць сажаняу. Калі адлегласць была меншай, то бакавы фасад аднаго з суседнічаючых дамоу выконвауся у выглядзе цаглянага брандмауэра. У глыбіні пляца размяшчаліся гаспадарчыя пабудовы: хлявы, дрывотнікі, ці дадатковы жылы будынак ( дом, флігель ). Жылыя і гаспадарчыя пабудовы утваралі двор. За тэрыторыяй двара, астатнюю частку пляца, займау сад, агарод.

Сярод гістарычнай дакументацыі менскага гарадскога грамадскага упраўлення ёсць шэраг аб"ёмістых тамоу апісання нерухомай маёмасці па гарадскіх кварталах. У гэтай дакументацыі даюцца схемы планіроукі кварталау і падрабязнае апісанне іх забудовы на пачатак XX ст. з планіровачнымі схемамі, зробленымі у адзіным маштабе, пералікам і назвамі пабудоу, характарыстыкай добраупарадкавання ( тратуары, агароджы, калодзежы, прыбіральні і г.д. ), азеляненне ( агарод, сад ), а таксама сацыяльнай характарыстыкай насельніцтва ( уладальнік, арандатар, рамеснік, гандляр ).

Забудову вуліц Вялікай і Малой Татарскай утваралі, паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу канца XIX — пач. XX стст., кварталы 64, 74, 84, 86, III, 629, 630. Тэрыторыя, на якой асобныя помнікі драулянай забудовы захаваліся да сённяшняга дня ( фрагмент вуліцы Дзімітрава ад дамоу № II да № 23 ) належала кварталам № 629 і 74, размешчаны паабапал заходняй часткі Вялікай Татарскай вуліцы. Забудову вуліцы утваралі дамы і пабудовы пляцау 621/I, 629/36, 629/37, 629/38, 629/39, 629/41 і 629/42, а таксама пляцау 74/I, 74/2, 74/3, 74/4, 74/5, 74/6. Размяшчэнне планіровачных схем у вызначанай паслядоунасці і дае магчымасць рэканструяваць характар забудовы Вялікай Татарскай на невялікім прамежку. Забудову уздоуж вуліцы утваралі жылыя дамы. На некаторых пляцах размяшчаліся па дзве, звернутыя да вуліцы жылыя пабудовы. Пра памеры дамоу дазваляюць меркаваць не толькі маштаб, але і дакладныя памеры, прыводзімыя у дакументах. Так, жытло на пляцы 629/I мела памеры 9,9 х I2,8 аршынау у плане і 4,8 аршыны па вышыні. Яшчэ адна кватэра мела адпаведна I3,8 х 6 х 4,8 аршыны. Планіроука такіх кватэр уключала, як

правіла, углыб пляца. Гэта былі у асноуным склады для дроу ( дрывотні ), памяшканні для транспартных сродкау ( вазоуні ), невялікія хлявучукі. Арыентаваліся яны уздоуж зямельных надзелау ( пляцау ). Добраупарадкаванне складалі драуляныя тратуары і агароджы. Сады і агароды давяршалі малюнак асяроддзя.

На падставе пакватральных выпісау нерухомай маёмасці мы усё ж такі можам даволі дакладна узнавіць якасную структуру забудовы Вялікай Татарскай вуліцы, напрыклад, у межах ад вуліц Замкавай да Тарасаускай. Пляц 629/42 быу забудаваны двухпавярховымі муравамымі і драулянымі дамамі, а таксама аднапавярховым домам з гаспадарчай прыбудовай ( хлявом ). Акрамя муравага двухпавярховага, на даследуемым участку вуліцы мелася пяць жылых пабудоу на каменных сутарэннях ( цокальных паверхах ), чатыры жылыя дамы з мезанінам, знаходзілася пяць крамак ( па продажу газіраванай вады, марожанага, печыва, шавецкіх і кравецкіх вырабау і г.д. ). Узрост пабудоу вагауся адносна даты складання вопісау ( 1910 — 1918 гг. ) ад аднаго да пяцідзесяці гадоу ( пляц 629/42 ), асобныя будынкі абазначаны як пабудаваныя вельмі дауно ( 629/37 ). Пераважная большасць жылых і гаспадарчых пабудоу была накрыта гонтай. Бляхавае пакрыццё мелі 8 будынкау з 40 ( агульная колькасць ). Асобныя хлявы былі накрыты дошкамі. Памерамі вылучаліся каменны двухпавярховы дом на пляцы 629/42 ( 26 х 17 аршынау ) і дом на пляцы 74/3 ( 40,8 х 7,5 аршынау ). Пра колькасць жылых пакоеу і кватэр можна меркаваць па спісу жыхароу ( пражываючых ). На пляцы 74/1 пражывала 11 кватэранаймальнікау, а на пляцы 629 35 — 10.

Па свайму сацыяльнаму статуту насельніцтва Вялікай Татарскай складалі гандляры і рамеснікі. Найбольшай колькасцю вылучаліся шауцы ( 6 ), сталяры і стэльмахі ( 6 ), крауцы ( 5 ). Былі тут і пекары, кавалі, друкары, марожаншчыкі, прыказчыкі і нават трубач і шарманшчык. Пражывалі таксама уладальнік даходных дамоу і уладальнік мылаварнай майстэрні.

Плошчай, занятай пад агароды і сады вылучаліся пляцы 74/3, 629/35, 629/36, 629/38 і 629/39. Тут насаджэнні займалі больш палові тэрыторыі надзелу.

Такім чынам, прааналізаваныя архіўныя крыніцы дазваляюць ствараць даволі дакладны і падрабязны гістарычны план інфраструктуры вуліцы. Прыцягненне дадзеных перыяду першай паловы — сярэдзіны бягучага стагоддзя з гарадскога бюро тэхнічнай інвентарызацыі, даюць магчымасць ідэнтыфікаваць тыя, нямногія помнікі традыцыйнагістарычнай, драўлянай забудовы Вялікай Татарскай вуліцы, якія фрагментарна захаваліся да нашага часу ( дамы пад нумарам 9, 11, 13 і 23 ).

Рэканструкцыя гістарычная інфраструктура фрагменту Вялікай Татарскай вуліцы, якая, на першы погляд, не вылучаецца яснаю сістэмай, усё ж такі мае права быць падставаю для абрання кампазіцыйнага рашэння рэгенерацыі прадмесця. Такое права вызначаюць тры асноўныя гістарычна-планіровачныя заканамернасці: франтальнасцю забудовы ( на чырвоных лініях ), арганізацыя прасторы ўнутры забудовы ( двара ), наяўнасцю плошчаў зялёных ( садовых ) насаджэнняў. Забудова Вялікай Татарскай вуліцы, — арганічны элемент архітэктурна-горадабудаўнічага асяроддзя усяго комплексу Ракаўскага прадмесця і цэласнасць рэгенерацыі апошняга цалкам залежыць ад аднаўлення гістарычнага асяроддзя былой Татарскай Слабады.

А. Лакотка

( таблічны матэрыял і чарцёж гл. на наступных старонках )

## З КНІГІ С.У. СУСЛАВАЙ
## ЖАНОЧЫЯ ЎПРЫГОЖАННІ КАЗАНСКІХ ТАТАР СЯРЭДЗІНЫ XIX — пачатку XX ст.



# СТРУКТУРА

забудовы вуліцы Вялікай Татарскай ( у межах ад Замкавай да Тарасаўскай на пачатку XX ст.

( квартал № 74 )

| Нумар пляца | Літ. абазн. | Тып пабудовы | Д-драўл. К-камен. З-змешаны | Колькасць паверх. | Тып пакрыц. | Колькасць дым. труб | Час пабудовы | Памеры (аршыны) | | | Сац. склад жыхароў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | даўж. | шыр. | выш. | |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | I0 | II | I2 | I3 |
| I | А | дом | 3 | 2 | Бляха | I | I2 гадоў | II,8 | I4 | 8 | 7 гандляроў (I крама і I чайная), 2 сталяры, тыпаграфшчык, чорнарабочы |
| | Б | дом | 3 | 2 | бляха | 2 | 29 | 34 | I2,8 | 6,8 | |
| | в | хлеў | К | I | гонт | | | I5 | 7 | 4 | |
| | | дом | Д | I | гонт | 2 | 29 | I2 | 5,8 | 3,4 | |
| | г | хлеў | Д | I | гонт | | 20(?) | I0 | 4,8 | 3,4 | |
| 2 | А | дом | Д | I | гонт | I | I7 | I2,8 | 9,8 | 5,8 | |
| | Б | флігель | Д | I | гонт | | I7 | 7,I3 | 7 | 3,8 | |
| | в | хлеў | Д | I | гонт | | I7 | 4 | 4 | 3,8 | |
| 3 | А | дом | Д | I | гонт | 4 | | 40,8 | 7,5 | 3 | сталяр, шавец, дворнік, гандляр (крама), швачка, тыпаграфшчык |
| | Б | дом | Д | I | гонт | 2 | | I9 | 9,4 | 3,5 | |
| | В | флігель | Д | I | гонт | 2 | II | 20 | I0 | 4,I2 | |
| | г | хлеў | Д | I | гонт | | | 5,0 | 4,8 | 4,I2 | |
| | д | хлеў | Д | I | гонт | | | 8 | 6 | 4,I2 | |

| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | А | дом | Д | I | гонт | I |  | I0 | 9 | 3,6 |  |
|  | Б | лаўка | Д | I | дошкі |  |  | 5 | 4 | 3,8 | гандляр ( крама), шпалершчык, столяр, пекар, гандляр ( крама), марожаншчык ( крама ) |
|  | В | флігель | З | I | гонт | 2 | 9 | 20 | 9 | 5,4 |  |
|  | г | ляднік | Д | I | гонт |  | 3 | 9 | 7 | 5,4 |  |
|  | д | хлеў | Д | I | гонт |  |  | I8 | 5 | 5,4 |  |
|  | е | пограб | Д | I | гонт |  | 9 | 4 | 4 | 5,4 |  |
|  | ж | дом | Д | I | гонт | I | 2 | I2 | I0 | 5 |  |
|  | з | лаўка для марожанага |  |  |  |  |  | 5 | 3,8 | 3 |  |
| 5 | А | дом з мезанінам і падвалам | З | I | гонт | 2 |  | 2I | I2,6 | 6 | 2 гандляры ( 2 крамы ), марожаншчык, шавец, маляр, шорнік, сталяр, шавец, стэльмах |
|  | Б | дом з мезанінам | Д | I | гонт | I |  | I6,8 | 7,8 | 6 |  |
|  | В | лаўка | Д | I | гонт |  |  | 3,I | 3,I | 3,2 |  |
|  | г | хлеў | Д | I | гонт |  |  | I5 | 4 | 3,2 |  |
| 6 | А | дом з мезанінам | Д | I | гонт | 2 | 26 | I2,8 | 9 | 4,I2 | каваль, гандляр шавец |
|  | а | хлеў | Д | I | бляха |  |  | 9 | 2,8 | 3 |  |

( квартал № 629 )

| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | I0 | II | I2 | I3 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | а | лаўка | | | | | | 4 | 3 | 3,4 | шавец, краўчыха, уладальнік завода газіраванай вады |
| | б | дом | Д | I | гонт | | I9I3 | I4 | I3 | 5 | |
| | | лаўка | | | | | | 3,I2 | 2 | 4,8 | |
| 35 | А | дом | Д | I | гонт | 5 | | 9,8<br>I4,I | 8,8<br>7,8 | 4 | домауладальнік, краўчыха, кравец, шавец, стэльмах, школьнік, бляхар, шавец, службовец на бойні |
| | Б | дом | Д | I | гонт | 2 | | I4,I2 | 6,8 | 4,8 | |
| | В | дом на каменным сутарэнні | | | гонт | 2 | I0 | I6,I2<br>2I | 9,4<br>9 | 6 | |
| | г | хлеў | | | дошкі | | | 8,5 | 6,8 | 4 | |
| | д | хлеў | | | | | | 8 | 5 | 3,4 | |
| | е | хлеў | | | | | | I4,8 | 4,I2 | 4,8 | |
| 36 | А | дом | Д | I | гонт | 2 | 30 | I8,I2 | 9 | 5,8 | 3 гандляры ( I крама ), уладальнік мылаварнай майстэрні, прыказчык |
| | Б | дом | 3 | I | гонт | I | 20 | I8 | I2 | 5,4 | |
| | В | дом | Д | I | бляха | | | I6 | I0 | 5 | |
| | г | хлеў | Д | I | бляха | | 20 | I0 | 4,8 | 4,4 | |
| | д | хлеў | Д | I | дошкі | | I | 7 | 4,8 | 4,8 | |
| | е | хлеў | Д | I | гонт | | | 9 | 6 | 4 | |

| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 37 | А | дом | Д | I | гонт | 5 | 25 | 8,8<br>29<br>7,8 | 8,8<br>9,8<br>I5 | 4,8 | трубачыст, гандляр фарбамі, 2 гандляры, муляр, сталяр, кравец, трубач |
| | Б | дом | Д | I | гонт | 3 | вельмі даўно | 8 | 2I | 3,8 | |
| | в | хлеў | Д | I | гонт | | 35 | I2,8 | 5 | 3,8 | |
| | г | хлеў | Д | I | гонт | | I9 | 9 | 5,4 | 4,4 | |
| | д | хлеў | Д | I | гонт | | I9 | I8 | 5 | 4 | |
| 38 | А | дом | Д | I | гонт | I | даўно | I9 | I0 | 3,6 | пекар (крама), 2 гандляры |
| | б | хлеў | Д | I | дошкі | | даўно | 4,8 | 4,8 | 3,I | |
| 39 | А | дом з брамаўэрам і мезанінам | Д | I | бляха | 5 | | 9<br>I8 | 8<br>I3 | 5,8 | пекар ( крама ), 2 гандляры |
| | | мезанін | | | | | | I6,8 | 6 | 3,8 | |
| | я | хлеў | Д | I | | | | 9 | 4 | 3,8 | |
| 4I | А | дом з ёўтарэннем | Д | I | гонт | | 30 | 25 | 9 | 4,8 | уладальнік гуты, шавец ( крама ), пераплетчык |
| | Б | дом | Д | I | | | 30 | I7 | 5,8 | 5 | |
| | в | хлеў | Д | I | | | I0 | 38,I0 | 6,6 | 6 | |
| | г | хлеў | Д | | | | I2 | I7,8 | 4,8 | 6 | |

нуюць памяць Гусайна, у якім бачаць святога і пакутніка - у спецыяльных страсных містэрыях, так званых т а з і е (аплакванне), якая складаецца з двух актаў: адзін - пад назвай Ашура адзначаецца ў мясцовасці Казіман, непадалёку ад Багдада, на працягу 10 дней мухаррэма (месяц, у які загінуў Гусайн); другі акт - праз 40 дзён, у Кербеле (так званае "Вяртанне галавы"). Нашчадкі Гусайна носяць ганаровае званне - саййіды.

З розных даведнікаў

ДУНГАНЕ, д у н г а н (цюрк.), л о х у э й, х у э й (саманазва), народнасць. Паводле перапісу 1989 г. у СССР жыло 69,3 тыс. дунган, у т.л. 30,2 тыс. у Казахстане, 36,9 тыс. у Кіргізіі, 1,1 тыс. у Узбекістане, 0,6 тыс. у РСФСР і інш. Размаўляюць на дунганскай мове. Пашыраны таксама кіргізская і казахская мовы. Пісьменнасць на аснове рускага алфавіта. Вернікі мусульмане-сунніты.

Дунгане - нашчадкі хуэй (народ у Кітаі, 8,6 млн. чал.), якія перасяліліся ў Казахстан і Сярэднюю Азію ў канцы 70-х - пач. 80-х гадоў 19 ст. з кітайскіх правінцый Шэньсі, Ганьсу і Сіньцзян. Яны ратаваліся ад праследавання маньчжура-кітайскіх правіцеляў пасля задушэння вызваленчага антыфеадальнага паўстання 1862-77 гадоў. На новых землях дунгане пасяліліся кампактнымі групамі па зямляцкаму прынцыпу: у сёлах Караканув і Шорцюбе ў Казахстане - шэньсійцы, у сяле Ырдык у Кіргізіі - ганьсуйцы, у сяле Аляксандраўка на р. Сакулук (таксама ў Кіргізіі) - сіньцзянцы. Спачатку ў пасяленцаў сувязі паміж сабой не было, але з цягам часу яны наладзіліся, хоць доўгі час захоўвалі дунгане рэгіянальныя адрозненні ў культуры.

Асноўны занятак дунган - земляробства, найбольш рысаводства і агародніцтва. Гадуюць буйную рагатую жывёлу, авечак, свойскую птушку; частка дунганаў занята ў прамысловасці. Дунгане-перасяленцы аказалі дабратворны ўплыў на развіццё земляробства ў суседніх цюркскіх народаў.

Сем'і маладзетныя, але трапляюцца яшчэ і шматлюдныя сем'і. У дунган даволі моцныя крэўныя і зямляцкія сувязі. У мінулым існавала мнагажонства.

Пасяленні рэгулярнай планіроўкі. Традыцыйнае жыллё каркасна-

слупавой канструкцыі (сцены з сырцовай цэглы ці каменя) або глінабітныя, шматкамерныя, з выхадам з пакояў на крытую галерэю. Характэрнай асаблівасцю была ляжанка (кан) у спальным пакоі, пад якім была печ. На кане елі з посуду, які ставіўся на нізкія столікі. Традыцыйная мужчынская і жаночая вопратка блізкія па пакрою: куртка, якая зашпільвалася гузікамі на правы бок, шырокія порткі. Жаночае адзенне ўпрыгожана вышыўкай. Абутак з тканіны. Стравы пераважна з мукі (доўгія макароны) і агародніны, прыпраўленыя курацінай, баранінай, ялавічынай. Для смажання ўжывалі найбольш алей. Шматлікія закускі і салодкія стравы. Пачынаюць яду з чаю, завяршаюць - супам. Мучныя стравы і парануюагародніну ядуць палачкамі. Ужываюць многа перцу, часнаку, цыбулі, воцату.

Зберагліся народная медыцына, багаты фальклор (паданні, казкі). Атрымалі значнае пашырэнне формы сучаснай культуры, што знайшло адлюстраванне ў трансфармацыі жылля, вопраткі, харчавання, сямейнай арганізацыі.

Да 30-х гадоў 20 ст. сфарміравалася літаратурная мова. З 40-х гадоў 20 ст. (асабліва пасля Вялікай Айчыннай вайны, у якой дунгане прымалі ўдзел) узмацніўся працэс міграцыі ў розныя гарады. Павіліся мяшаныя шлюбы. Незалежна ад месца пражывання дунгане падтрымліваюць цесныя сувязі са сваімі супляменнікамі ў Казахстане, Кіргізіі, Узбекістане, Расійскай Федэрацыі. Найбольш захоўваецца традыцыйная кулінарыя. Рэлігія ўспрымаецца як частка нацыянальнай культуры.

А.Рэшатаў

<u>КЕРБЕЛА</u>, Карбала, Машхад ал-Гусайн, горад у Іраку, у даліне р. Еўфрат, за 102 км на паўднёвы захад ад Багдада. Адміністрацыйны цэнтр мухафазы Кербела. Пастаяннае насельніцтва каля 200 тыс. чалавек. Жывуць персы, арабы, індыйцы, пакістанцы і інш. Сучасны горад узнік у 7 ст., непадалёку ад руінаў старажытных гарадоў - Ніневіі (знішчана ў 612 г. да н.э.), Вавілона (2 ст. н.э.). Буйны гандлёва-транспартны пункт. Кансервавы завод, цукровыя заводы, тэкстыльныя прадпрыемствы. Рамёствы.

Кербела - свяшчэнны горад мусульман-шыітаў, цэнтр паломніцтва шыітаў усяго свету, месца знаходжання адной з галоўных святынь - маўзалея Гусайна, цэнтр вышэйшай тэалагічнай адукацыі

і багаслоўскіх навук.

10 мухарэма (г.зн. у дзень Ашура) – 10 кастрычніка 680 г. у мясцовасці Нінава ў няроўным баі невялікі атрад Гусайна – сына Алі і ўнука прарока Мухаммеда, а таксама зводнага брата Гусайна – Аббаса і іх 70 паплечнікаў па-зверску забіў чатырохтысячны корпус амейядцаў (гл. Амейяды). Гэта падзея паклала пачатак культу Гусайна як святога. Мяркуемае месца пахавання (Кабр ал-Гусайн) стала святыняй, якая прыцягвае сюды шматлікіх паломнікаў. Першапачатковую грабніцу затапіла ў час навадненння ў даліне Еўфрата ў 850 г., пры халіфе Мутавакілі, затым зноў у 979 г. пры Буідах. На месцы грабніцы быў узведзены велічны маўзалей, у 1016 г. яго купал быў спалены, але неўзабаве ўзноўлены. Побач з маўзалеем пабудавана медрэсе. Для пакланення ў Кербелу прыходзілі славутыя кіраўнікі мусульманскіх дзяржаў, у тым ліку султаны і шахі, яны рабілі багатыя падарункі для маўзалея і медрэсе. У 1801 г. ваххабіты абрабавалі шыіцкую святыню, але з цягам часу яна набыла новую веліч. Пра грабніцу пакінулі яркія апісанні сярэднявечныя гісторыкі і геаграфы (ал-Істахры, Ібн Хаўкал, Ібн-Батута).

Сучаснае свяцілішча памерам 48х42 м знаходзіцца на вялікім падворку плошчай 108х82 м і абкружана зводчатым калідорам, па якім пілігрымы робяць рытуальны абход (таваф). Сцены будынка ўпрыгожаны багатым арнаментам. Грабніца ал-Гусайна размешчана ў цэнтральным зале будынка. Каля ўвахода ў маўзалей – два мінарэты, да падворка прымыкае вялікае медрэсе з мячэццю.

А.Кушаў

КІРКОР Адам Ганоры Карлавіч (псеўд. Ян са Слівіна, Ян Валігурскі, Сабары і інш.; 21.I.1818, в. Слівіна Манастыршчынскага раёна Смаленскай вобл. - 23.II.1886, Кракаў), беларускі, польскі і рускі грамадскі дзеяч ліберальнага кірунку, публіцыст, выдавец, гісторык, археолаг, літаратуразнавец, этнограф. Член-карэспандэнт Імператарскага археалагічнага таварыства (1856), член рускага геаграфічнага таварыства (1857), Акадэміі ведаў у Кракаве (1873). Вучыўся у Магілёўскай (да 1834) і Віленскай (да 1838) гімназіях. У Вільні выдаваў літаратурна-навуковыя альманахі "Radegast" ("Радэгаст", 1843), "Pamiętniki Umysłowe" ("Разумовыя дзённікі", т. 1-3, 1845-46), "Памятныя кніжкі Вілен-

скай губерні" (1850-54), часопіс "Teka Wileńska" ("Віленскі зборнік", 1857-58), альманах "Pismo zbiorowe Wileńskie" ("Віленскі альманах", 1859, 1862), дзе змяшчаў свае працы па гісторыі і этнаграфіі Беларусі і Літвы. З 1855 член Віленскай археалагічнай камісіі, хавальнік Віленскага музея старажытнасцей, якому ахвяраваў сваю калекцыю археалагічных знаходак у Мінскай і Віленскай губернях. У 1860-65 рэдактар газеты "Виленский вестник". Узначальваў віленскі гурток беларускіх, польскіх і літоўскіх пісьменнікаў. З 1859 г. уладальнік друкарні ў Вільні, дзе выдаваліся танныя кніжкі для народа на польскай, літоўскай і рускай мовах (планаваліся і беларускія выданні). У 1868-1871 гг. адзін з выдаўцоў газеты "Новое время" у Пецярбургу. З 1872 г. у Кракаве чытаў лекцыі па славянскіх літаратурах у тэхнічна-прамысловым музеі. У 1874 г. гэтыя лекцыі выйшлі кніжкай "Пра літаратуру братніх славянскіх народаў", якая пачынаецца раздзелам пра беларускую літаратуру. У "Нарысах сучаснай рускай літаратуры" (1873) даў высокую ацэнку творчасці В.Р.Бялінскага, М.Г.Чарнышэўскага, М.А.Дабралюбава. Гісторыі і прыродзе Беларусі, матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа прысвечаны працы Кіркора "Рэшткі язычніцкіх звычаяў на Беларусі" (1839), "Аб этнаграфічнай мяжы літоўскай і славянскай народнасцей у Літве" (1857), "Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню" 1857-59), "Аб першабытнай славяншчыне" (1875), "Літоўскае Палессе" і "Беларускае Палессе" ("Жывапісная Расія", т. 3, ч. 1-2, 1882; у 1993 г. у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя" гэты том выдадзены рэпрынтна), "Гісторыка-статыстычныя нарысы Віленскай губерні" (т. 1-2, 1852-53) і інш. Аўтар успамінаў "Літоўскія абразкі" (1874), дзе расказваецца аб дружбе беларускага рэвалюцыянера і паэта Ф.Савіча з рускімі і польскімі аднадумцамі, "З віленскіх успамінаў" (1884), "Успаміны з 1860-1863 гадоў (1884-1885).

А.І.Мальдзіс

---

У артыкуле Г.В.Кісялёва, які напісаў пра А.Кіркора для 3-га тома бібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі" (Мн., 1994, стар. 226-229), змешчана абшырная бібліяграфія -

назвы прац А.Кіркора і артыкулы пра яго і яго творы. Сярод іншага Г.В.Кісялёў у гэтым артыкуле падае, што Кіркор належаў да небагатага беларускага шляхецкага роду татарскага паходжання. Бацькі яго (Кароль Мікалаевіч і Тэкля Маркаўна з Валадковічаў) валодалі невялікім фальваркам Грынеўшчына (Кіркораўшчына) у Клімавіцкім павеце.

КРАШЭНЫ, ахрышчаныя татары, керэшэн (саманазва), этнаканфесійная група (агульнасць) у складзе Волга-Уральскага рэгіёна, жывуць пераважна ў Татарстане, невялікія групы ва Удмурціі, Башкортастане і ў Чэлябінскай вобл. (у апошняй - нагайбакі).

Паводле перапісу насельніцтва 1926 г., калі крашэны і нагайбакі ўлічваліся не ў складзе татар, крашэнаў было 101,4 тыс., нагайбакаў - 11,2 тыс. чалавек. У крашэнаў вылучалася пяць гаворак: заказанскіх крашэнаў, крашэнаў Ніжняга Прыкам'я; нагайбакаў, чыстапольскіх крашэнаў, молькаўскіх крашэнаў. У асноўным яны існавалі ў рамках сярэдняга дыялекту татарскай мовы (выключэннем з'яўляецца гаворка молькаўскіх крашэнаў, якія бліжэй да заходняга дыялекту. У складзе крашэнаў вылучаюцца этнаграфічныя групы: молькаўская, чыстапольская, заходне-перадкамская, елабужская, мендзялінская, бакалінская, нагайбакская. Вернікі-крашэны вызнаюць праваслаўе.

У фарміраванні крашэнаў удзельнічалі як фіна-вугорскія, так і цюркскія, у т.л. познацюркскія - кыпчакска-нагайскія кампаненты. Відавочна, што ў час хрысціянізацыі не ўсе крашэны вызнавалі іслам. Як самастойная агульнасць яны сфарміраваліся ў некалькі этапаў. Тыя, хто прынялі праваслаўе ў 15 - першая палавіне 16 ст. хутка абруселі і ў далейшым выступалі як частка рускага этнасу. Ядро крашэнаў склалася за кошт хрысціянізацыі часткі татар Паволжа ў другой палавіне 16-17 ст.ст. Гэта група (на пач. 18 ст. - каля 17 тыс. чал.) пазней атрымала назву "даўней акрышчаныя". У першай палавіне 18 ст. ў Паволжы пачалася хрысціянізацыя народа. Пры гэтым была зроблена спроба ахрысціць у праваслаўе і татар, што выклікала іх супраціўленне (татара-башкірскае паўстанне 1755 г., актыўны ўдзел у сялянскай вайне пад кіраўніцтвам Е.Пугачова) і ў цэлым не мела поспеху. У першай палавіне 18 ст. каля 3,5 тыс. татар было ахрышчана. Яны ўтварылі групу "новаахрышчаных". Да 60-х гадоў 18 ст. ўдзельная вага кра-

шэнаў у складзе татар Паволжа і Прыуралля дасягнула максімальнай велічыні - 7,6%. Да таго ж многія прадстаўнікі татарскай арыстакратыі, якія ахрысціліся з мэтай захавання сваіх уладанняў у 16 - пач. 18 стст. абруселі ўжо ў 17-18 стст. (напрыклад, Бегаватавы, Біглювы, Янгалычавы, Урусавы, Шырынскія і інш.).

У 19 ст., асабліва з 60-х гадоў, сярод крашэнаў пачаўся рух за пераход у мусульманства. Ён ахапіў найперш "новаахрышчаных". Адыход крашэнаў, у тым ліку і "даўней ахрышчаных", узмацніўся з 1905-07 гадоў. У пачатку 20 ст. каля 40% крашэнаў перайшлі ў мусульманства. Гэты працэс быў звязаны з кансалідацыяй татар у перыяд фарміравання адзінага этнасу. Колькасць крашэнаў у 18 - пачатку 20 стст. глядзі ў лічбах:

1719 г. - 17,0 тыс., 1744 г. - 23,0 тыс., 1762 г. - 30,3 тыс.,
1782 г. - 35,1 тыс., 1795 г. - 40,0 тыс., 1833 г. - 68,7 тыс.,
1857 г. - 36,3 тыс., 1847 г. - 110,0 тыс., 1911 г. - 123,0тыс.,
1920 г. - 120,0 тыс., 1926 г., 120,7 тыс.

У пачатку 20 ст. этнаканфесійная агульнасць крашэнаў складалася з групаў, у якіх саманазва керэшэн (у некаторых, як, напрыклад, у нагайбакаў, іншыя этнонімы), замацавалася. У сувязі з устойлівым характарам дадзенай агульнасці, якая ў час перапісу 1920 і 1926 гадах вылучалася нават у якасці самастойнай этнічнай адзінкі - "народнасці", пасля 1917 г. у Татарстане ўзнікла "крашэнскае пытанне", для рашэння якога выявіліся падыходы: наданне крашэнам пэўнай аўтаноміі ці шлях "збліжэння" с астатнімі татарамі. У выніку вострай барацьбы атрымала перамогу так званая сярэдняя лінія, калі пры прадастаўленні крашэнам пэўнай культурнай аўтаноміі вялася палітыка згладжвання розніцы паміж крашэнамі і татарамі-мусульманамі. У далейшым ва ўмовах увядзення атэізму ў дзяржаўную палітыку магчымасць захавання самабытнасці крашэнаў аказалася значна звужанай. У апошнія гады абазначылася тэндэнцыя для росту самавызначэння крашэнаў, адным з адлюстраванняў якога стала стварэнне "Этнаграфічнага культурна-асветніцкага аб'яднання крашэнаў".

Традыцыйная культура крашэнаў дастаткова своеасаблівая, што звязана з асаблівасцямі фарміравання агульнасці і з уздзеяннем праваслаўя. Ва ўмовах ізаляцыі крашэнаў ад агульнай масы татараў-мусульман адбылася кансервацыя некаторых элементаў традыцый-

най культуры, якія перапляліся з элементамі хрысціянскай культуры. Па асноўных элементах культуры крашэны зблiжаюцца з казанскімі татарамі, хоць асобныя групы крашэнаў звязаны і з татарамі-мішарамі (чыстапольскімі, молькаўскімі).

Найважнейшую ролю ў гаспадарцы крашэнаў іграла земляробства са збожжавай спецыялізацыяй (жыта, пшаніца, полба, авёс, грэчка, ячмень, гарох, сачавіца). З тэхнічных культур вырошчвалі каноплю, радзей - лён. Агародніцтва і садоўніцтва былі развіты слаба, абмяжоўваліся вырошчваннем бульбы, цыбулі, менш капусты, гарбузоў. Жывёлагадоўства мела другараднае значэнне, гадавалі коней, кароў, авечак, коз, свіней (аб познім паяўленні свінагадоўлі сведчыць той факт, што гэтая жывёліна не фігуруе ў традыцыйных рытуалах і мяса жывёлы ў абрадавых стравах адсутнічае). Гадавалі свойскую птушку (куры, гусі, месцамі качкі, індыкі). Пчалярства, рыбалоўства і паляўніцтва мелі аматарскі характар. Промыслы даволі разнастайныя: ткацтва, пляценне, апрацоўка дрэва, воўны, скуры і інш.

Тыпы пасяленняў: вёскі, сёлы (аулы), у асноўным лагчыннарачныя ці далiннага тыпу. У 19 ст. пераважала лінейная форма планіроўкі вёсак. Сядзібныя пабудовы, якія ўтваралі адзіны комплекс, складаліся з драўляных зрубных хат, пераважна двухкамерных (хата-сені), з шэрагу гаспадарчых пабудоў (свірны, хлявы, лазні, дрывотні, скляпы і інш.). Дахі былі з дошак, саламяныя, пакрытыя трыснягом, дубам. Традыцыйным быў падзел дома на дзве палавіны - белую (ак ой) і чорную (кара ой). Ганаровым месцам у крашэнаў - нараўне з тур (асвячонае месца насупроць дзвярэй у цэркаў), было месца абразоў (кояш почмак, тэрэ почмак). Жылая частка пакоя раздзялялася як і ў татар-мусульман перагародкай ці фіранкай на дзве палавіны - мужчынскую і жаночую. Ва ўнутраным убранстве жылля шырока ўжываліся ручнікі з каляровымі канцамі, сурвэткі і інш. Мэбля - нары, ляжанкі і лавы. У канцы 19 ст. паявіліся дэталі гарадскога побыту (сталы, буфеты, люстэркі, гадзіннікі і інш.).

Касцюм розных груп крашэнаў меў адрозненне. У другой палавіне 19 ст. вопратку шылі з самаробнай суровай тканіны (алача), а ў канцы 19 - пач. 20 стст. пашырыліся фабрычныя тканіны. Але да калектывізацыі фабрычныя тканіны скарыстоўваліся толькі для шыцця святочнага касцюма. У крашэнаў самаробныя тканіны за-

хоўваліся ва ўжытку больш, чым у татараў-мусульман. У крашэнаў доўга як упрыгожанне зберагаўся прыгожы пояс (эзер). Найбольш былі пашыраны сарочкі тунікападобныя, без плечавых швоў, з белага палатна (пакрой аднолькавы для мужчын і жанчын). Другі тып жаночай сарочкі з адразной таліяй, з упрыгожаннем груднога выразу (ізу), са зборкамі (у розных груп ізу па форме адрозніваюцца; аборкаў таксама было больш ці менш у лакальных падгруп). Пераход да гарадскога касцюма адбыўся на аснове апошняга тыпу жаночага адзення шляхам дапаўнення асобнымі дэталямі. Замужнія жанчыны пад сарочкай насілі ўпрыгожанні з вышыўкі ці аплікацыі з кускоў каляровага паркалю нагруднікі (кукрэкчэ). У мужчын вышывалі канцы рукавоў, падол, прыполак сарочкі жаніха. Порткі – з шырокім крокам, аднолькавага пакрою для мужчын і жанчын. У мужчын у пачатку 20 ст. пашырыліся порткі гарадскога тыпу – чалбар. Як у мужчын, так і ў жанчын былі пашыраны фартухі. У жанчын фартух быў часткаю святочнага касцюма

Як верхнюю вопратку для жанчын і для мужчын (да сярэдзіны 19 ст.) выкарыстоўвалі камзол, які ў жанчын меў дапасаваную ў стане форму. Святочныя камзолы, асабліва ў дзяўчат, упрыгожваліся аплікацыяй з каляровых тканін, стужак, срэбнага пазументу і г.д. Характэрная летняя вопратка для дзяўчат, а таксама маладых жанчын – зіян (з палатна). Пасля яго шылі і з фабрычных тканін. Святочныя зіяны, асабліва ў маладзіц, упрыгожваліся. У даўнейшыя часы ў крашэнаў былі і іншыя халатападобныя віды вопраткі – джуа (чыба). У мужчын найбольш пашыраная верхняя вопратка – казакін (з дапасаванай спіной), з доўгімі рукавамі і невысокім стаячым каўняром. У вясноза-асенні сезон насілі чыкмень (чыкмэн) з сукна ( у мужчын – з прамой спіной), у жанчын – дапасаваны – прыталены да стану ), жанчыны насілі таксама армяк (дапасаваны да стану з чорнага сукна). Мужчынскае і жаночае адзенне – бішметы з фабрычных тканін на ваце, футры, паўкажушкі і кажухі. У дзяўчат футры ўпрыгожваліся прашыўнымі каляровымі ўзорамі ці аплікацыяй.

Шырокае ўжыванне аплікацыі адрознівае крашэнаў ад татараў-мусульман. Абутак: лапці (чабата) татарскага ўзору, ваўняныя шкарпэткі (тула оек), робленыя панчохі, боты (у т.л. чэрэк башмак) і вайлакі, таксама і валяныя галёшы – йон ката. Галаўныя ўборы ў мужчын у асноўным таго ж тыпу, што і ў іншых татараў.

Зімою шапка з аўчыны, часам падшытая па краях футрам (камалы бурэк). Ужываецца і рускі малахай. Летам валены з воўны капялюш чорны або шэры. Пазней пашырыліся і гарадскія шапкі. Нацыянальна татарска-мусульманскія тыпы галаўных убораў (тубэтэй, кэлэпуш) не ўжываліся. У жанчын таксама не назіралася шэраг тыпаў галаўных убораў (малыя калфакі, камчат бурэк, каттарджы і іншыя), якія, відавочна, успрымаліся як мусульманска-татарскія.

Дзяўчаты валасы на галаве не ўкрывалі, жанчыны насілі сароку (сурэкэ), якая была складаным уборам з валасніка (мэлэчэк) і павязкі (ці пакрывала ў залежнасці ад узросту). Дзявочыя галаўныя ўборы: калфакі, якія насілі разам з ука чачак – налобнай павязкай і так'я – шлемападобнай формы ( у некаторых групаў крашэнаў). Упрыгожанні вельмі разнастайныя – сярэбраныя манеты, ювелірныя віселькі з выкарыстаннем пацерак, дробных каралаў і г.д. (галаўныя павязкі, накоснікі, завушніцы, нашыйныя ўпрыгожанні, бранзалеты і г.д.).

Аснова харчавання крашэнаў – мучныя і крупяныя вырабы. З мясных страваў – бараніна, цяляціна, ялавічына. Свініна – не паўсюдна. З птушак – кураціна, гусяціна, мяса качак. Каніна ўжывалася не ўсюды. У адрозненне ад мусульман крашэны шырока ўжывалі грыбы. Спецыфіка крашэнскай кулінарыі – прыгатаванне студзеня (квашаніны). Пашырана выкарыстанне ў ежу крыві жывёл (кан тэбэсе). Малочныя стравы разнастайныя: малако, смятана, масла, катык (ад кіслага малака), твораг (эмемчэк, сезма), сыр – чыгыт (але не ўсюды). Асноўны напітак – чай, таксама эйран (сумесь катыка з вадой), квас, піва (сыра) – абавязковы напітак на вяселлях, мядовыя напіткі (у т.л. і алкагольныя), самагонка (кумышка).

Многія характэрныя рысы традыцыйнага побыту крашэнаў ужо зніклі. Традыцыйны касцюм збярогся толькі ў выглядзе сямейных рэліквій. Побыт крашэнаў адчуў моцны ўплыў сучаснай гарадской культуры.

А. Ісхакаў

КРЫНІЦКІ Аляксандр (7.6.1890 - 5.6.1976), імам Некрашунскага (1934-1939) і Віленскага (1939-1944) джамітаў, імам ваколіцы Сандыкаўшчызна (1944-1976). У яго бацькі Аладына Амуратавіча і маці Зофіі была яшчэ сястра Ева, якая стала жонкай штабс-капітана рускай арміі Мацвея Вільчынскага, з якім дажывала свой век у Сандыкаўшчызне, дзе і пахавана на мізары. Арабскую пісьменнасць і асновы Ісламу Аляксандр Крыніцкі вывучаў у годжыя. У 1925 г. ён узяў шлюб з Зюняй Вільчынскай, меў дачку Айшу (унучка яго Вольга Крыніцкая - доктар). У 1939 г. быў выбраны імамам Віленскага джамііта. Польскім татарам ён быў вядомы як удзельнік Першага Ўсепольскага кангрэсу і член Найвышэйшай Мусульманскай Калегіі. У 1941 г. памерла яго жонка, пахавана на мізары ў Немежы. У 1944 г. Аляксандр Крыніцкі з дачкой пераехаў у Сандыкаўшчызну, дзе быў імамам. У час калектывізацыі ў Заходняй Беларусі ў 1949 г. татары выбралі яго старшынёй татарскага калгаса. Чалавек добрага сэрца, высокай культуры, вельмі прыемны голас яго застаецца ў памяці татар-мусульман. Спачывае на мізары ў Сандыкаўшчызне.

А.Гарадзенскі

ЛЕБЕДЗЬ Сямён Сцяпанавіч (Ісмаіл Мустафавіч, нарадзіўся 25.7.1934, в. Казяны Браслаўскага раёна Віцебскай вобл.), доктар тэхнічных навук (1992), прафесар (1992). Скончыў Беларускі лесатэхнічны інстытут (1958). Працаваў у Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце асістэнтам (1962-67), ст.выкладчыкам 1968-71), дацэнтам (1971-91), прафесарам (з 1992). Асноўны накірунак навуковай дзейнасці: стварэнне машын і абсталявання для механізацыі працаёмкіх загрузачна-фарміравальных працэсаў на прадпрыемствах лясной і дрэваапрацоўчай прамысловасці, а таксама машынабудавання. Стварыў тэарэтычныя асновы распрацоўкі загрузачна-фарміравальных працэсаў і машын. Кіраваў навукова-даследчымі і вопытна-канструктарскімі работамі па іх стварэнню і ўкараненню ў вытворчасць. Аўтар 128 навуковых публікацый і 48 вынаходстваў, падрыхтаваў 5 кандыдатаў навук.

МАІДА, А л ь - М а і д а , 5-я сура Кур'ана. Складаецца з 120 аятаў. Лічаць яе мединскай. Назва паходзіць ад слова ў 112 аяце. Па-беларуску назву суры перакладаюць як З а с т а ў л е н ы с т о л , Т р а п е з а . Сура гэтая з ліку доўгіх, уключае галоўным чынам рэлігійна-праўныя ўказанні. Тут наказы мусульманам аб паляванні, мусульманскіх стравах, статусе жанчын, пра малітвы і дапамогу бедным, рытуальнае абмыванне, пра іудзеяў і хрысціян, злодзеяў і іх пакаранне, пра клятвы і прысягу, алкагольныя напіткі і азартныя гульні, сведкаў пры складанні тастаменту (завяшчання) смяртэльна хворым чалавекам. Даследчыкі Кур'ана і Бібліі знаходзяць у гэтай суры некаторыя сувязі - пэўнае падабенства матываў і падзей.

Б.Бяляўскі

СВІНІНА. Паводле паданняў першабытны чалавек, які рассяліўся па зямлі і забыў пар навуку першага чалавека і прарока Адама, еў амаль усё, хоць на падсвядомым узроўні, які даступен і звярам, некаторых раслін і жывёл есці асцерагаўся. Прарок Муса (Майсей) перадаў для людзей, якую жывёльную ежу Бог лічыць чыстай, дазволенай у ежу, а якую нячыстай, забароненай. У Святым Кур'ане (сура 2-я, аят 174; 5-я, аят 4; 6-я, аят 146; 16-я, аят 116), сярод іншага, забаронена мусульманіну ўжываць свініну.

Калі мусульманін памірае з голаду, а дазволенай ежы няма, то ён можа есці і недазволенае, у тым ліку і свініну. Знаходзячыся на вайсковай службе ў акружэнні іншаверцаў ці атэістаў, мусульманін вымушаны есці страву, прыгатаваную з прадуктаў, якія забаронены яму паводле Ісламу. Але за гэты прымус супроць волі мусульманіна пакаранне панясуць крыўдзіцелі. Каб чытач уявіў сабе, што значыць мусульманіну есці свініну, дык гэта тое ж, што беларусу, рускаму ці паляку есці сабачыну, дажджавых чарвей (добра адкормленых, памерам з сасіску), змеяў, хоць у некаторых народаў свету гэтыя стравы лічацца найкаштоўнейшымі і найсмачнейшымі.

У 19-м стагоддзі біёлагі ўстанавілі, што пры ўжыванні свініны бывае хвароба т р ы х і н е л ё з , узбуджальнікам якой з'яўляецца трыхінела. Асноўныя носьбіты трыхінел - свінні, ваўкі, лісы, каты, сабакі, мядзведзі, пацукі, мышы. Для гэтых

жывёл трыхінела шкоды не прыносіць, але чалавек, калі паядае мяса гэтых жывёл, якое недастаткова праварана ці пражарана, заражаецца лічынкамі паразіта і вельмі цяжка хварэе (каб хворы не страціў розуму ад страшнага болю, яго ўвесь час на працягу 30-40 сутак паілі спіртам. Калі ў выніку такога лячэння чалавек і выжываў, то найчасцей станавіўся алкаголікам).

З розных даведнікаў

СМОЛЬСКІ Бякір Міхайлавіч (12.7.1913, Менск - 28.9.1982), вучоны-цеплафізік, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР з 1967 г., доктар тэхнічных навук з 1958 г., прафесар з 1961 г. З сям'і служачага, у 1935 г. ст. навуковы супрацоўнік лабараторыі прамысловай вентыляцыі Навукова-даследчага Інстытута аховы працы, з 1946 г. старшы выкладчык, з 1949 г. дацэнт Беларускага політэхнічнага Інстытута, з 1958 г. загадчык лабараторыі цепла- і масаабмену АН БССР, у 1959-1971 гадах намеснік дырэктара, з 1971 г. загадчык лабараторыі тэрмааэрадынамікі Інстытута цепла- і масаабмену АН БССР.

Працы Б.М.Смольскага прысвечаны метадам тэрмавільготнай апрацоўкі тэрмаадчувальных матэрыялаў, а таксама працэсам пераносу цяпла і рэчыва ва ўмовах вакууму. У выніку даследаванняў вызначыў аптымальныя ўмовы для інтэнсіфікацыі сублімацыйнага абязводжвання капілярапорыстых рэчываў. Удзельнічаў у абароне Масквы, Ленінграда. Падпалкоўнік, камбат. Узнагароджаны ордэнам Аляксандра Неўскага, ордэнам Чырвонай Зоркі, двума ордэнамі Айчыннай вайны І ступені, ордэнам Айчыннай вайны ІІ ступені, медалямі.

ТАТАРАЎ, К р а м я н ц ы , кліматычны курорт на Украіне, у Івана-Франкоўскай вобл. Размешчаны ў гарах (Украінскія Карпаты), у даліне р. Прут на вышыні 750 м над узроўнем мора. Лета ўмерана цёплае, зіма - мяккая. Лячэбныя сродкі - клімататэрапія. Паказанні: актыўныя сродкі туберкулёзу. Працуе круглы год.

ТАТАРСКІ ПЕРАВАЛ, паніжэнне ў Украінскіх Карпатах паміж вытокамі рэк Прут і Ціса, па якім на вышыні 931 м над узроўнем мора праходзіць чыгунка Івана-Франкоўск - Рахаў.

ЦЫБУЛЯ-ТАТАРКА, цыбуля-батун, трубчастая цыбуля, зімовая цыбуля, пясчаная цыбуля, шматгадовая зімаўстойлівая моцнагалінастая расліна. Утварае невялікую цыбуліну цыліндрычнай формы, якая пераходзіць у несапраўднае сцябло з полым трубчастым лісцем. У першы год вырастае лісце даўжынёй 25-30 см. На 2-і год цыбуліна-татарка ўтварае кветкавае сцябло, цвіце, абнасеньваецца. Адначасова адбываецца дзяленне і пад восень утвараецца 5-7 даччыных раслін у адным кусце. На 3-і год узмацняецца ўтварэнне новага лісця і кветкавых сцеблаў, на 3-4 кусты можна дзяліць для размнажэння. Па смаку лісце цыбулі-татаркі крыху саступнае зяляніне рэпчатай цыбулі, але паводле хімічнага саставу і колькасці вітамінаў яно блізкае да яе. Вітаміну С 95-110 мг %, утрымлівае вітаміны $B_1$, $B_2$, Д, РР, солі фосфару і медзі, да 9,5% сухіх рэчываў, 2,3% цукру. Цыбуля шырока культывуецца на Далёкім Усходзе, у Сібіры, Кітаі, Японіі і Карэі (магчыма, што на Беларусь, таксама як і аер - татарскі корань - завезлі татары).

З розных даведнікаў

ЧУМАР, клёцкі па-татарску. Папулярная казанскататарская страва. Ахалоджаны падсолены булён, звараны з бараніны, ялавічыны ці курыны скарыстоўваюць для замесу цеста з яек, пшанічнай, або гарохавай, грэчневай, чачавічнай мукі, з цеста качаюць невялікія клёцкі памерам з лясны арэх і кідаюць іх у булён-кіпень. Часам у булён перад гэтым дадаюць бульбу і моркоўку, гатуюць, а затым яшчэ 30 хвілін гатуюць разам з клёцкамі.

# У НАС ПЫТАЮЦЬ, З НАМІ РАЯЦЦА, НАМ ДАЮЦЬ ПАРАДЫ

Зулейха з Гродзеншчыны хоча даведацца, адкуль у "Аль-Кітаба" сродкі на выданне "Байрама" і што татары могуць зрабіць для таго, каб часопіс выходзіў часцей і атрымлівала яго кожная сям'я.

Адказ: Нам дапамагае Аллаг праз добрых людзей. Склаўшы рукапіс квартальніка, надрукаваўшы яго так-сяк на машынцы, мы не ведаем, дзе ўзяць грошы, каб заплаціць за чысты перадрук і за тыраж. Колькі? Сабекошт адной кніжачкі "Байрама" каля 20 тысяч рублёў. Пяць гадоў таму мы маглі прадаваць нашым чытачам кніжачку за І-3 рублі, а грошы ішлі на наступны нумар нашага выдання. Цяпер жа нашы чытачы збяднелі і ўжо мала хто можа купіць кніжачку. Некаторыя мусульмане, далёка не самыя заможныя, даюць грошы ці інакш дапамагаюць нам. Згодна з мусульманскай этыкай прозвішча і імя таго, хто дапамагае бедным ці грамадству, ведае Аллаг, а выхваляцца мусульманіну сваёю шчодрасцю грэх. Калі ж дапамогу "Байраму" аказвае хто-небудзь з хрысціян ці іудзеяў, атэіст, то са згоды нашага прыяцеля ці прыяцеляў мы называем іх імёны.

Выказваліся меркаванні пра тое, што калі б сабрала нейкія сродкі адзін раз абшчына Іўя, другі раз абшчына Навагрудка, трэці-чацвёрты раз абшчына Менска, то мы маглі б аб гэтым напісаць у адпаведным нумары "Байрама". Але будзе толькі тое, што наканавана Аллагам.

Ян Гвоздаўскі з Мядзельшчыны пытае, чым кіруюцца ў "Байраме" друкуючы матэрыялы пра мусульман і людзей іншай веры. З адной кніжачкі, якая яму трапілася, усяго зразумець нельга.

Адказ: Мы думаем, што пытанне і адказ зацікавяць і іншых чытачоў ( інакш, мы б яму маглі даслаць асабісты ліст). У нашым квартальніку ёсць два віды артыкулаў - звычайныя, памерам да 10 старонак, і карацелькі - для энцыклапедычнага даведніка "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы". Дык спачатку паспрабуем адказаць на тую частку пытання, якая, магчыма, датычыцца энцыклапедычнага даведніка. Мы называем гэтыя артыкулы пробнымі, бо і сапраўды яны пробныя. Пра кожную такую даведку чытач-эрудыт мо-

жа сказаць нешта цікавае і патрэбнае. Назаві мы гэтыя публікацыі ўзорнымі - колькі б пасыпалася заўваг, крытыкі! А так ніхто і нічога.

Вялікія артыкулы ў "Байраме" - гэта тое, што цікава пра гісторыю і культуру татар і мусульман, а калі пра чалавека, то абы чалавек быў добры.

Можа мы, пане Яне, і не зусім пра тое адказалі, пра што Вы пыталі. Адкажа Вам нехта ў наступным "Байраме".

Спадарыня Халецкеня з Вільнюса нагадвае нам, што яе ўнучка-скрыпачка даўно навучылася выконваць тыя татарскія песенькі, якія раней друкаваў "Байрам". Калі ж будуць новыя?

Адказ: Гэта наш недагляд, што мы малышам надаем мала ўвагі. Закапаліся ў іншых справах, а пра дзяцей забыліся. Відаць таму, што найбольшыя дзеячы, якія клапоцяцца пра ўвесь народ, нават усё чалавецтва, застаюцца без сваіх дзяцей. Абяцаем хоць крышачку злагодзіць нашу абыякавасць.

Анвар з Брэста піша, што ў школе яму вельмі хацелася быць выбраным хоць бы ў санітарную тройку, але яго за ўсё жыццё так ні разу не выбралі, хоць ён выбіраў шмат разоў і ў гарадскія, і ў Вярхоўныя Саветы і нават прэзідэнта. Цяпер, калі пайшоў на пенсію, вырашыў неяк высунуцца ўперад - здаць экзамен на веданне гісторыі і культуры літоўскіх (г.зн. беларускіх, польскіх і літоўскіх татар - заўвага рэд.). Чуў ён, што такія экзамены можна будзе здаваць пры праўленні "Аль-Кітаба".

Адказ: Паважаны наш брат Анвар! Ібрагім Канапацкі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта працуе над праграмай курса па гісторыі і культуры татар Беларусі. У наступным нумары "Байрама" будзе надрукавана каля 50 пытанняў пра татараў-мусульман. Некаторыя нашы чытачы могуць запытаць: а што дасць чалавеку гэта "мерапрыемства"? Амаль нічога, калі не лічыць, што ён яшчэ можа нешта зразумець, вывучыць, расказаць сваім родным, блізкім, знаёмым, што ён не камень, не пень ці калода, якая ... ляжыць сабе і ўсё.

Эмір Крыніцкі са Шчучынскага раёна даслаў у рэдакцыю "Байрама" лісты, якія мы друкуем у гэтым нумары квартальніка пад

назвай "Лісты з Сандыкаўшчызны". Чытачы могуць падзяліцца сваімі думкамі непасрэдна з Э.Крыніцкім, ці праз рэдакцыю "Байрама".

Толькі друкаваць, ці друкаваць і перадрукоўваць. Мы атрымалі два лісты, у якіх выказваюцца аўтары, ці трэба квартальніку, які і так малы па аб'ёму, займаць плошчу на тое, што ўжо даўно ўсім вядома. Але мы пачакаем, каб больш людзей выказалася на гэту тэму, а тады ўжо і надрукуем аргументы дыспутантаў.

Спадзяемся, што рубрыка, азначаная ў гэтым нумары, стане пастаяннай і можа будзе і цікавай.

## АНАЛІЗ ГЭТЫХ ЛІЧБАЎ ВЫКЛІКАЕ Ў ТАТАРАЎ ТРЫВОГУ

Паводле дадзеных перапісу насельніцтва 1989 года на Беларусі жыло 12436 татар. З агульнай колькасці занятае насельніцтва складае 7808 чалавек. У горадзе жыло 10618 татар, у сельскай мясцовасці - 1818 чалавек. Мужчын было 6363 чалавек, жанчын - 6073 чалавек. У горадзе мужчын татар - 5426, жанчын - 5192. У сельскай мясцовасці мужчын - 937, жанчын - 881. (Дадзеныя дзяржаўнага камітэта па статыстыцы. Вынікі Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1989 года. Размеркаванне насельніцтва на нацыянальнасці, роднай мове і другой мове народаў СССР па Беларускай ССР. Табліцы 9.10 (абсалютныя дадзеныя) М., 1989 г.)

Урбанізацыя насельніцтва прывяла да рэзкага скарачэння татарскай сям'і. Калі да другой сусветнай вайны (паводле перапісу 1926 года) сярэдняя статыстычная татарская сям'я складала 8-10 чалавек, то сёння - 3,2 (у горадзе) і 3,9 (у сельскай мясцовасці). Назіраецца агульная тэндэнцыя зніжэння натуральнага прыросту, выкліканая з аднаго боку зніжэннем нараджальнасці, з другога - высокай смяротнасцю сярод беларускіх татар. Шмат змешаных сямей (70% ад агульнай колькасці). Калі не будуць прыняты дзяржаўныя праграмы па захаванню гэтага рэліктавага этнаса беларускіх татар чакае лёс караімаў, якіх ужо засталося толькі 256 чалавек. Усё гэта вынік той палітыкі, што праводзілася ў папярэднія гады, якая па задумцы кіраўнікоў савецкай дзяржавы павінна была прывесці да ўтварэння адзінай супольнасці - "савецкага народа".

І.Канапацкі

# ЛІСТЫ З САНДЫКОЎШЧЫНЫ

Рэдакцыя квартальніка "Байрам" атрымала лісты ад Э.Крыніцкага з Сандыкоўшчыны Васілішкаўскага сельсавета Шчучынскага раёна Гродзенскай вобл. (паштовы індэкс 231522). Мы друкуем гэты матэрыял без усякіх заўваг, толькі тое, што аўтар напісаў чырвоным колерам, мы падкрэсліваем простай лініяй.

Папярэдняя і кароткая заўвага рэдакцыі "Байрама".
Э.Крыніцкі ў сваіх лістах закранае некалькі пытанняў. Пра тое, дзе, хто і калі ўпершыню ўпамінае пра татараў і іх знаходжанне ў Вялікім Княстве Літоўскім. Думаю, што ўпершыню яны сталі вядомымі тут у пачатку 1240-х гадах. Пра пасяленне татараў на землях Вялікага Княства Літоўскага, пра татарскія мізары (могілкі), мячэці можна гаварыць толькі пасля афіцыйнага надання зямлі татарам у 1397 г.

Другое важнае пытанне - па сваей ахвоце ці як палонныя былі паселены ў ВКЛ татары - адназначнага адказу няма. Ёсць розныя меркаванні і яны, спадзяюся, будуць надрукаваны ў "Байраме".

Пра гэтыя і іншыя бакі жыцця татараў Беларусі, закранутыя ў лістах Э.Крыніцкага, просім чытачоў нашага квартальніка пісаць у рэдакцыю, толькі пішыце вельмі чытэльна і не абражайце сваіх апанентаў непарламенцкімі словамі (накшталт "дзікун").

З Энцыклапедыі

ДЛУГАШ ( Długosz) Ян ( 1415, г. Бжазніца — 19.5.1480 ), польскі гісторык і дыпламат: кракаускі канонік ( з 1436 ), архіепіскап львоускі ( 1480 ). Асн. твор Д. "Гісторыя Польшчы" ( 12 кніг на лац. мове ), дзе апісау падзеі з дауніх часоу да 1480 ( дае звесткі пра Беларусь ). Вяршыня польскай сярэдневяковай гістарыяграфіі, першая у Польшчы навук. гістар. праца, напісаная на аснове крыніц ( хронік, летапісау ), успамінау жывых сведак падзей. Значны літ. помнік свайго часу.
Тв.: Рус. пер. — Грюнвальдская битва, М.—Л., 1962.

24.III.1995

## Татары 1397. Католическо-белорусская сказка

И было это в 1397 г. от Р.Х. И пошел князь Витовт в поход на татар. А впереди всех ксёндз Ян Длугош. В левой руке его булла папская, в правой - крест железный в рост человеческий. Ворвались они в самую середину Орды. Размахнулся Ян Длугош крестом - засвистел ветер, огласилась булла папская и попадали татары с коней, а рать Витовтова давай их вязать да в плен угонять аж в Литву, под Вильно под город, на речку на Ваку. А Ян Длугош достал книгу костельную, заострил перо чудотворное и давай всё писать, что видел и слышал. И стал он хронистом главным польским и католическим. И жил он долго. А при князе Казимире (1427-1492) стал он с 1440 Казимиру наставником и личным ксендзом.

А сказка его о пленении татарском дошла и до наших дней. И ссылаются на нее школьные учебники истории, отражающие официальную точку зрения Республики Беларусь:

1. "Гiсторыя Беларусi" 5-6 кл. стр. 216, Мiнск "Народная асвета" 1993 г.
   "1397 - ... паспяховы паход супраць Арды"
2. "Беларусь - мая радзiма" 4 кл., стр. 76, Мiнск, 1993 г.
   "... у рукi Вiтаўта трапiла шмат палонных татар".

И верят этой сказке некоторые татары. Собираются даже "святкаваць" своё (сказочное) пленение. ("Ал-Ислам, № 2, 1994 г., стр. 29). Вероятно, от посвиста креста Яна Длугоша, отбило им память и начали путаться они в своей собственной истории. А Ян Длугош сделался им непоколебимым историческим авторитетом и главным свидетелем-очевидцем, хотя к тому времени (события 1395-1399 г.г.) он еще на свет не родился. И пишут татары исторические книги. И для большей убедительности ссылаются на показания очевидцев первых поселений татар в Литве. Например, на Жильбера де Ланноя, который в январе 1414 г. ехал из Вильно в Пруссию через Троки и записал в своём дневнике: "Живет также в упомянутом городе Троки и вокруг него в нескольких деревнях, очень большое количество татар, которых уже несколько поколений, но на самом деле они обычные сарацины, не знающие веры Иисуса

Христа, с особым языком, называемым татарский". (Подлинный французский текст и польский перевод донесения королевского посла Ж. де Ланноя опубл. в работе " Rozbiory dziel " J. Lelewel , 1844 г. Познань; стр. 382). Понимая, что доказательную силу в любом споре (суде) имеют лишь показания свидетелей, тем более что сообщение Ж. де Ланноя согласуются с показаниями "братьев" францисканцев от 1324 г. (" Annales ordinis Minorum ab anna 1208 ab an 1540 ", London, 1672, t. I стр. 459) о наличии в Литве "пришельцев из края какого-то хана", С.У.Думін в книге "Беларусія татары", Мінск "Полымя", 1993 г. на стр. 18 вместо слов "которых уже несколько поколений" ставит "...", а уже на стр. 19, хоть и не к слову, но выпячивает "(пасяленне ў 1397 г. на рацэ Вацэ палонных)". Так хочется Длугошам всех мастей сделать татар потомками пленных. Нет! Много раз повторенная ложь не станет правдой: не сходятся концы с концами и торчат уши. Вылезла ложь наружу через почти 400 лет, не стала сказка о первом поселении татар в 1397 явью. Татары свою историю знают. 12 сентября 1399 г. на р.Ворскае Витовт был разгромлен Золотой Ордой (Эдигей). Эта битва стала судьбоносной для татар из свиты хана Тохтамыша, которым после неудачной попытки вернуть власть в Орде, ничего не оставалось как остаться на службе в Литве, где в силу различных обстоятельств татары служили уже начиная с 1312 г.

Член правления ТОКО "Китаб" татар Принеманья Эмир Криницкий.

31.03.1995

15 апреля 1395 года на р. Терек произошла крупнейшая битва того времени, предрешившая судьбу нашей исторической Родины – Золотой Орды и нашу личную судьбу. 15 апреля 1995 г. – 600 летие этого трагического для татар события. В течение 1395 года и первых месяцев 1396 года происходил разгром и уничтожение городов и населения Золотой Орды армией гур-Эмира Тимура (Тамерлана). После 1395 года Золотая Орда уже окончательно восстановиться не смогла.

Журналы "Ал-Ислам" и "Байрам" по теме =1395 – Золотая Орда= – ни одного слова.

Прицепились к каким-то "пленным" 1397 г., были они или не были, для 600-летнего периода истории это абсолютно безразлично, просто это говорит об отсутствии стратегического мышления у тех, кто привязывается к подобным датам в таких масштабах времени или о злом умысле.

Даже по Т (БТ) "Шматгалоссе" (начало 1993 г.) отец Канапацкого И.Б., из Смилович, на всю Беларусь заявил, что татары в плен попали.

2 октября 1552 была взята Казань. 2 октября 1994 г. Казанские татары молились за души павших татар при защите Казани, хоть и дата не круглая.

Что наш председатель всех МРО РБ - ничего, к 600 летию битвы на Тереке, не организовывает.

Хоть бы помолились за души убитых татар, чем беларусам в квартиранты набиваться.

16.04.1995

Журнал "Байрам", анонимно перепечатав из журнала "Ал-Ислам" № 2, 1995 г., стр. 41, "Открытое письмо президенту РТ М.Шаймиеву" Абу-Бекира Шабановича, вслед за ним, на стр 30 "Гістарычная даведка" (№ 4, 1994 г) ошибочно утверждает, что якобы в 1997 году исполняется 600 лет со дня первого поселения татар в ВКЛ.

Это не так! Первое упоминание о татар в Литве - "братьев францисканцев" от 1324 г.

Ему соответствует упоминание посла английского короля Жильбера де Ланноя от 1414 г, который говорит о татарах вблизи Трок "живут они поселениями". Если брать местные хроники, то первое упоминание относится не к 1397 г, а к 1386 г. Хроника Мартина Бельского говорит о татарах, которые в виде вооруженной стражи (конный отряд уланов), сопровождали литовского князя Ягайло из Литвы в Краков. Этот исторический факт (12 февраля 1386 г.) г. Краков, коронация Ягайло, опровергнуть невозможно.

Ян Длугош, который писал о,якобы, пленении татар в 1397 г и последующем расселении их на Ваке, просто врал. Он желаемое выдавал за действительное. А писал он о том, что пленных татар охристили, потом они вступили в брак с христианками и стали поляками (это что касается татар Ягайло).

Удивительно, как образованные люди конца XX века, татары "Аль-Китаба", не могут раскусить дикаря XУ в.!

Ведь здесь же явно просматривается современная проблема, ассимиляции татар посредством межнациональных браков! Далее. Какой из Яна Длугоша может быть свидетель поселения татар, тем более их пленения, о котором он писал более 80 лет спустя после 1397 г.

Моя бабушка, при жизни, мне рассказывала, как в 1915-1921 гг. они были в беженцах, в Оренбурге. Если бы я, сегодня, начал писать об этом со всеми подробностями, то я был бы такой же свидетель, как Ян Длугош событий 1397 г. Кстати, тот же Длугош, указывал: что в 1410 г на Грюнвальдской битве, татары выставили "300 коней", хотя немецкие хроники и литовские указывают "тысячи".

К чему стремятся члены "Аль-Кiтаба"? То они поддерживают межнациональные браки в сомнительного направления журналах - (А-Б.Шабанович), то набиваются в квартиранты к белорусам - "Татары на зямлi Беларусi", то теперь с этими пленными увязались "официально". Учебники истории РБ надо читать и не быть такими официальными. Там сказано - татары 1397 - попали в плен к Витовту.

---

! От 31.03.95. Ошибочно, в программе "Шматталоссе" Т РБ, нач. 1993 г, выступал не отец, а дядя И.Б. Эмир Криницкий

## День Памяти

День памяти татар, погибших в битве на р. Терек, 15 апреля 1395 г. День памяти проводила семья Криницкого Эмира Алиевича.

Утром 15 апреля 1995 г., в своём доме, в чисто убранном центре был разостлан ковер. На стену повесили фамильный герб Криницких и зелёный флаг, в центре которого *Улан* — вооружённый конный воин-татарин, стреляющий из лука. Конь белый, в стойке "на дыбы". Справа вверху серебряный полумесяц со звёздочкой.

После омовения, я – Криницкий Эмир, мои сыновья – Эльдар (II лет) и Рустам (I0 лет) приступили к молитве, за души всех убитых в этой битве (I5.IУ.I395 г) татар:

Азан. 7 такбиров (I+6). Фатиха. Сура I09 "кафирун". Руку. Киам (2). 5 такбиров. Сура II4 "нас". Руку. Киам (2). Ат-тахийат (I и 2 часть). Ат-таслим: 6 такбиров (4+2).

После молитвы поехали на машине всей семьёй на мизар. Для символического отведывания могил воинов-татар, павших в битве на Тереке, подобрали старые, без памятников, уходящие в землю могилы. Принесли хлеб, соль, воду. Приложились к одной из них и прочли соотвеств. молитву из Хамаила.

По возвращении домой детям был прочитан отрывок из книги А.Ю.Якубовского "Золотая Орда и её падение", Москва-Ленинград, I950 г, "Академия наук СССР", стр. 365-373.

"... в среду, I5 апреля I395 г, началось одно из крупнейших сражений того времени, решившее судьбу не только Тохтамыша, но и Золотой Орды..."

После чтения отрывка и просмотра карты была проведена беседа: еще раз доведено детям, что мы сегодня отмечали; что послужило причиной ухода татар 600 лет назад из Золотой Орды в Принеманье.

---

I2 августа I999 г, аналогично, будем отмечать битву татар с Витовтом на Ворскае, I399 г.

---

Так надо проводить мероприятие 600 – с пользой, перспективой, верными историческими ориентирами, касающимися Истории татар, и без лишних материальных затрат.

Эмир Криницкий

| | |
|---|---|
| I5 апреля I395 | Битва при Тереке, между ханом Тохтамышем и Тамерланом. |
| I395 | Разгром Золотой Орды Тамерланом. |
| I396-I398 | Восстановление власти Тохтамышем в Золотой Орде. |
| I398 | "Того же лета в радости велице бывшу царю Тохтамышу Больша Орды, от съпротивных свободшуся и послы своя посылающу ко всем странам, имя своё прославляющу". В разгар успехов по восстановлению власти в Золотой Орде на Тохтамыша "внезапу" напал "некий царь, именем Темирь-Кутлуй и бысть им бой велик и сеча зла. И одоле царь Темир царя Тохтамыша и прогна, и сяде сам на царстве Волжском Больш!а Орды, а Тохтамыш царь побежа к Литовским странам" (ПСРЛ, 7, XI, Никоновская летопись, стр I67). |
| I2 УШ I399 | Битва на Ворскле. Поражение Витовта от Едигея. |

Витовт: Тохтамыш и немцы бежали. С Киева татары взяли выкуп - 3000 руб. (по Длугошу).

Если бы Витовт держал пленных с I397 г, тем более ногайцев, то их бы затребовали в первую очередь (Едигей - эмир из племени мангыт - ногай), своих родовичей он в плену бы не оставил, т.к. в то время авторитет рода был очень высок и по Закону Чингис-хана-Ясе, в первую очередь татары д.б. освободить пленных, а не требовать выкуп.

I399! (Байрам № 3, I933 стр 20). Ошибочно, от 25.03.93, август-"сентябрь", "IX" - УШ.

Эмир Криницкий

ЗМЕСТ